ЛІСТАПАД




# ШЛЯХІ КАЛЯКТЫВІЗАЦЫІ



1929

МЕНСК

# ЗЬМЕСТ.



---

**Малюнак на вокладцы:** Чырвоны абоз у сьвята „Дзень ураджаю і калякты візацыі" на пляцу Волі ў г. Менску.

---

# ШЛЯХІ КАЛЯКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС КАЛЯКТЫВІЗАЦЫІ, ВЫТВОРЧАГА С.-Г. КААПЭРАВАНЬНЯ І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАССАЮЗУ БССР

Выходзіць раз у месяц

№ 5 | Лістапад | 1929 г.




## Новы зямельны кодэкс на шырокае абгаварэньне.

Народны Камісарыят Зямляробства надрукаваў і разаслаў на месцы для абгаварэньня праект новага зямельнага кодэксу БССР у рэдакцыі калегіі Наркамзему.

З апошніх пастаноў партыйных і савецкіх устаноў працоўныя БССР добра ведаюць аб усіх тых клясавых скрыўленьнях, якія мелі месца ў практычнай працы Народнага Камісарыяту Зямляробства.

Аднадушнай пастановай верасьнёўскага пленуму ЦК КП(б)Б праваўхілісцкая—кулацкая палітыка ў мінулым Народнага Камісарыяту Зямляробства была рашуча асуджана. Зразумела, што кулацкая палітыка, якая праводзілася Наркамземам у практычнай працы на працягу цэлага раду гадоў, цягнула за сабой выданьне адпаведных цыркуляраў, якія па сутнасьці скрыўлялі тыя асноўныя ўстаноўкі нашай зямельнай палітыкі, якую праводзіла камуністычная партыя Беларусі.

Новы зямельны кодэкс, які зараз разасланы на месцы для абгаварэньня сярод шырокіх колаў працоўных, распрацаваны на падставе дырэктыў Саюзнага закону асноўных прынцыпаў зямлякарыстаньня і зямляўпарадкаваньня і ставіць аднэй з сваіх задач рашучую перабудову дробных адзінаасабовых сялянскіх гаспадарак у буйныя сацыялістычныя гаспадаркі; стварае ўсе падставы для гэтага і дае рад палёгкаў бядняцка-серадняцкім колам вёскі выйсьці як мага хутчэй на шлях буйнога соцыялістычнага зямляробства. У гэтых мэтах новы зямельны кодэкс БССР амаль што цалкам распрацаваны нанава; паасобныя разьдзелы і артыкулы, якія не адпавядаюць мэтавай устаноўцы партыі і Савецкай улады ў справе ўзмацненьня сацыялістычнага наступленьня на кулака, зразумела, выкрэсьлены зусім. Тое, што здабыта, як вопыт, у справе працы па разгортваньні калгаснага будаўніцтва, прызнана патрэбным і неабходным да выданьня ў якасьці закону, уключана. У выніку гэтай вялікай праробленай працы, таксама карэнным чынам пераароблена структура самога кодэксу.

Замест таго, што ў старым зямельным кодэксе справе калектывізацыі адводзілася толькі некалькі паасобных артыкулаў, новы зямельны кодэкс, ня кажучы ўжо аб тым, *што ён цалкам ад пачатку да канца зьяўляецца кодэксам, забясьпечваючым узмоцнены рух шырокіх* колаў працоўнага сялянства перабудоўваць свае гаспадаркі ў буйную

сацыялістычную, амаль палова артыкулаў адводзіцца пытаньням справы калектывізацыі. Зусім зразумела і выразна новы зямельны кодэкс ставіць пытаньні аб зямляўпарадкаваньні—аб тэй сацыяльна-палітычнай задачы, якую партыя і савецкая ўлада будуць вырашаць праз зямляўпарадкаваньне. Замест стаўкі на хутар, адруб, дробны пасёлак (які па сутнасьці зьяўляецца нічым іншым, як таксама замаскаваным хутарам або адрубам) новы зямельны кодэкс справу зямляўпарадкаваньня падпарадкуе выключна тым задачам, якія стаяць у партыі і савецкай улады ў галіне перабудовы вёскі на новых калектыўных падставах.

Зямляўпарадкаваньне, паводле новага зямельнага кодэксу, павінна стаць: *агра-палітычным мерапрыемствам дыктатуры пралетарыяту і павінна праз правільную арганізацыю тэрыторыі ўтвараць умовы, якія дапамагаюць пашырэньню сацыялістычных формаў зямлякарыстаньня і гаспадаркі, а таксама ўздыму вытворчых сіл бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, іх каапэраваньня і калектывізацыі.*

Новы зямельны кодэкс ставіць задачай рашучае наступленьне на капіталістычныя пласты вёскі праз забарону для кулацкіх гаспадарак здаваць у арэнду зямлю, праз увядзеньне жорсткіх умоў наймаемай працы ў кулацкіх гаспадарках, прыстасоўваючы цалкам для кулацка-капіталістычных гаспадарак кодэкс законаў аб працы, забарону і нават крымінальную адказнасьць за карыстаньне вельмі распаўсюджанай на абшарах БССР скрытай наймаемай працы пад відам сваяцтва, суседзкай дапамогі, адработкаў і інш.

Новым зямельным кодэксам таксама зусім выразна вырашаецца цэлы рад пытаньняў, якія вынікаюць з праў і абавязкаў зямельных грамад. Меўшая месца блытаніна, якая прыводзіла ў некаторых выпадках да падмены праў—органаў савецкай улады сходам зямельнай грамады, рашуча вырашаецца новым зямельным кодэксам у тым напрамку, што дзейнасьць зямельнай грамады цалкам павінна знаходзіцца пад кіраўніцтвам сельсавету аб РВК.

Прыступаючы да абгаварэньня новага зямельнага кодэксу, Народны Камісарыят Зямляробства добра сабе ўяўляе, што справа перабудовы сельскай гаспадаркі зьяўляецца справай усіх працоўных як гораду, так і вёскі. І таму, выносячы на шырокае абмеркаваньне праект новага зямельнага кодэксу, Народны Камісарыят Зямляробства спадзяецца, што новы зямельны кодэкс, прапушчаны праз пралетарскі агонь крытыкі і самакрытыкі, будзе тым зямельным законам, які нам патрэбен для перамогі старых, аджыўшых форм гаспадараньня.

Таму мы заклікаем усе ўстановы і савецкую грамадзкасьць для шырокага ўдзелу ў абмеркаваньні новага зямельнага кодэксу і ўнясеньня практычных прапаноў, якія-б далі магчымасьць сапраўды ў найкарацейшы тэрмін перабудаваць сельскую гаспадарку на сацыялістычны лад.

**Рачыцкі.**

---

# Да пытаньня аб стварэньні Саюзнага Народнага Камісарыяту Зямляробства.

У галіне нашага гаспадарчага будаўніцтва і, у прыватнасьці, у сельскай гаспадарцы Беларусі, мы маем шэраг дасягненьняў. Гэта яскрава адзначыў у сваёй рэзолюцыі апошні верасьнёўскі пленум ЦК КП(б)Б. Калектыўнае будаўніцтва ў Беларусі, якое разгарнулася за апошнія два гады, паказала ўсю блізарукасьць плянавых меркаваньняў у гэтай частцы. Яшчэ год таму назад у некаторых афіцыйных

працах адмаўлялася магчымасьць пашырэньня сацыялістычных форм сельскай гаспадаркі, саўгасаў і калгасаў на тэрыторыі Беларусі. Гэта ўгрунтоўвалася так званымі „мясцовымі асаблівасьцямі". Жыцьцё паказала хвасьцізм плянаваньня і недаўлік кіруючымі органамі (Наркамзем, Наркамасьветы) магчымасьці калектывізацыі вёскі.

Быў дапушчаны цэлы шэраг скажэньняў у галіне зямельнай і сельска-гаспадарчай палітыкі. Замест калектывізацыі рабілася ўстаноўка на стварэньне буйных культурных кулацкіх гаспадарак (справа Мароза і інш.). Лёзунг „Абагачайся, селянін, наогул" праводзіўся на практыцы паасобнымі кіруючымі работнікамі Наркамзему.

Верасьнёўскі пленум ЦК партыі Беларусі даў аднадушны рашучы адпор правым устаноўкам у галіне зямельнай і сельска-гаспадарчай палітыкі і даў выразныя дырэктывы і паказаньні. Сацыялістычнае будаўніцтва, якое шпарка разгортваецца і рашучае наступленьне на кулацка-капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі высоўваюць рад новых задач перад зямельнымі органамі ў пытаньнях плянаваньня сельскай гаспадаркі і ўвязкі яе з прамысловасьцю. Нам патрэбна пабудова электра-ўстановак, трактарных станцый, вялікіх камбінаваных прадпрыёмстваў па перааапрацоўцы сельска-гаспадарчых прадуктаў, якія-б забясьпечвалі пры мінімуме затрат максымум эфэкту, ня толькі з пункту погляду паасобных раёнаў, але і ўсяго Савецкага Саюзу цалкам.

Гэта, на нашу думку, першая акалічнасьць, якая прымушае ставіць пытаньне аб стварэньні адзінага кіруючага і плянуючага цэнтру сельскай гаспадаркай, накшталт Саюзнага Народнага Камісарыяту Зямляробства.

Індустрыялізацыя Савецкага Саюзу часамі разумеецца так, што будуй фабрыкі і заводы, а сырэц прывозь за тысячы вёрст. Як на добры прыклад, у Беларусі можна паказаць на адсутнасьць увагі да разгортваньня саматужнай прамысловасьці на мясцовым сырцы, дрэва-апрацоўчая справа, тарфяная і г. д.

Спэцыялізацыя паасобных раёнаў Савецкага Саюзу і ў сельска-гаспадарчых адносінах, зразумела, намечана ходам эканамічнага і натуральнага разьвіцьця іх. А значыць і адпаведнае плянаваньне ў галіне падрыхтоўкі для прамысловасьці сырцу, з аднаго боку, забесьпячэньне раёнаў адпаведнымі сродкамі вытворчасьці ці спажываньня, з другога боку, канкрэтна высоўвае задачу стварэньня адзінага кіруючага цэнтру.

Можна пералічыць дзесяткі выпадкаў, калі адсутнасьць адзінага цьвёрда навукова-ўгрунтаванага пляну надзвычайна цяжка адбіваецца на ўсёй рабоце. Напрыклад, у БССР мэліарацыя, якая, дарэчы, знаходзіцца на саюзным бюджэце. Цэлы рад пытаньняў, якія падлягаюць вывучэньню ў гэтай галіне, па сутнасьці зьяўляюцца пытаньнямі ня толькі беларускага значэньня. Але яны застаюцца непастаўленымі і нераспрацаванымі з-за адсутнасьці сіл і належнай колькасьці сродкаў. Таму сродкі, якія затрачваюцца, не даюць таго эфэкту, які можна было-б атрымаць. Практыка паказала, што мэліарацыя ва ўмовах Беларусі зьяўляецца адным з рэнтабэльнейшых мерапрыемстваў. Тут адкрываюцца неабмежаваныя магчымасьці вытворчасьці такіх культур, як лён, каноплі на балотных мэліараваных землях. У гэтым сырцы мае вялікую патрэбу наша прамысловасьць. Ня глядзячы на гэта, разьвіцьце вытворчасьці культур ідзе ў рамках здавальненьня толькі мясцовых патрэб. Урэшце, складаемы праект асушкі амаль стотысячнага масыву балотных зямель, якія знаходзяцца ў басэйне ракі Брагінкі, ставіць пытаньне пра цэлы рад адпаведных мерапрыемстваў з боку

Украінскай ССР. Гэтыя мерапрыемствы не праводзяцца, а, значыць, і эфэктыўнасьць капіталаў, якія затрачваюцца, будзе надвычайна зьніжана.

Пяройдзем да пытаньняў зямляўпарадкаваньня і перасяленьня. Пры існаваньні адзінага кіраўніцтва ў саюзным маштабе ня было-б тэй бакханальлі, якая мае месца зараз у формах і мэтадах работы, у падрыхтоўцы і скарыстаньні спэцыялістых-зямляўпарадчыкаў. Сілы спэцыялістых нямэтазгодна разьмяркоўваюцца паміж паасобнымі рэспублікамі і краінамі. Раёны, асабліва важныя з пункту погляду інтарэсаў усяе народнае гаспадаркі, не ўкамплектоўваюцца ў патрэбнай меры спэцыялістымі. Урэшце практыка работы Наркамзему Беларусі вельмі добра паказала на прыкладзе норм працоўнага зямлякарыстаньня пры зямляўпарадкаваньні, да чаго часамі пад фразай „мясцовыя ўмовы“ скрыўляюцца асноўныя ўстаноўкі нашай зямельнай палітыкі. Тое самае можна сказаць пра агранамію, навукова-дасьледчую справу і г. д.

Перасяленьне і калёнізацыя, якія маюць такое вялізарнае значэньне ва ўмовах Савецкага Саюзу, таксама не ў належнай ступені ўвязваюцца і плянуюцца. Рэсурсы краіны і гаспадарчая дзейнасьць настолькі вырасьлі, што для мэтазгоднага выкарыстоўваньня ўсіх матар'яльных сродкаў настойліва патрабуецца цьвёрдае кіраўніцтва ў галіне плянаваньня і пастаноўкі паасобных праблем, вырашэньне якіх не пад сілу паасобным рэспублікам або краінам. Бязумоўна, сёй-той з нацыянал-дэмакратаў мясцовага беларускага толку паспрабуе прадставіць стварэньне Саюзнага Наркамзему, як зьмяншэньне правоў і суверэнітэту паасобных рэспублік у тэй галіне работы, якая больш за ўсё павінна адлюстроўваць, на іх думку, так зв. „мясцовыя ўмовы“. На самой справе, існаваньне Саюзнага Наркамзему палегчыць у значнай ступені і дапаможа рэспублікам правільна і мэтазгодна пабудаваць канкрэтныя пляны сацыялістычнае перабудовы сельскае гаспадаркі.

Мы лічым, што на Саюзны Народны Камісарыят Земляробства павінны быць ускладзены такія функцыі.

1. Плянаваньне і рэгуляваньне сельскай і лясной гаспадаркай Саюзу ССР цалкам.
2. Распрацоўка пытаньняў зямельнай і сельска-гаспадарчай палітыкі.
3. Увязка паміж прамысловасьцю і сельскай гаспадаркай.
4. Плянаваньне і кантроль за мэтазгоднасьцю выкарыстаньня крэдытаў, якія адпускаюцца на мэліарацыю.
5. Кіраўніцтва перасяленчаю справаю і пытаньнямі калёнізацыі.
6. Вырашэньне пытаньняў электрыфікацыі, індустрыялізацыі, сельскай і лясной гаспадаркі.
7. Кіраўніцтва і каардынаваньне дзейнасьці сельска-гаспадарчых мерапрыемстваў саюзнага значэньня.
8. Кіраўніцтва сельска-гаспадарчымі трэстамі саюзнага значэньня і распрацоўка пытаньняў сельска-гаспадарчай і прамысловай каапэрацыі.

**Вашчыла-Вірын.**




*Пралятары, на дапамогу калектывізацыі!*

# Створым рабочыя брыгады для ўдзелу ў кіраўніцтве калгасным рухам.

Вёска Савецкай Беларусі ўвайшла ў палосу вялікай работы па гаспадарчай і палітычнай перабудове яе. Дасягнутыя посьпехі ў галіне калектывізацыі такія вялізарныя, што яны зацікавілі самыя шырокія слаі рабочай клясы. Гэта цікавасьць упоўне заслужоная. Арганізацыя калгасаў не зьяўляецца ўжо выпадкам у жыцьці той ці іншай вёскі; кіпіць гэта работа на прасторах нашай рэспублікі.



Чырвоны абоз калгасу „Расьсвет-Пабядзіцель“ на шляху ў Жлобін.



Хлеб пралетарыям гораду.

Са 100 раёнаў Беларусі—няма ніводнага, дзе-б ня было 10—15, а то і 20—30 і больш калектыўных гаспадарак.

У калектывы, усьлед за батрацтвам і беднатой, пашлі і самыя шырокія асноўныя масы сялянства—пайшло серадняцтва.

Аб'яднаньне ў калгасы 50—100 двароў звычайнае зьявішча. Калгасы з цэлых вёсак, *з цэлых сельсаветаў*—гэта ўжо ня толькі пажаданьне, зафіксаванае ў рэзалюцыі—гэта сапраўдная форма работы. У апошні час адзначыліся *раёны масавай калектывізацыі*, раёны, якія становяцца на шлях 100-проц. грамаджаньня.

У Клімавіцкім раёне, на Магілеўшчыне, на Мазыршчыне—можна ўжо дзесяткі вёрст разьяжджаць па шляхох, па вёсках—усё на тэрыторыі, якая належыць калгасам. На шлях поўнай 100-проц. калектыві-

зацыі пачынаюць станавіцца і другія раёны Рэспублікі, Лоеўскі на Гомельшчыне, Рагачэўскі на Бабруйшчыне, Капыльскі на Меншчыне і г. д.

*12 проц. усёй зямельнай плошчы БССР будзе калектывізавана ў наступным 1929—30 г.* 50 проц. калектывізацыі за пяцігодку—такімі тэмпамі будзе калектывізавацца беларуская вёска.

Сёньня ўжо большасьць калгасаў адзначаецца сваёй ураджайнасьцю ад вакольнага неарганізаванага сялянства. Благая дзесяцінка з ураджайнасьцю ў 40 пуд. зыходзіць са сцэны. *Ураджай у 80—120 пуд. з дзесяціны становіцца звычайным для большасьці калгасаў БССР.*

Калгасы Беларусі ў гэтым годзе ўжо ўнесьлі свой пай у хлебанарыхтоўкі—300.000 пуд. хлеба.

Які-небудзь умацаваны калгас, калгас дробны (такія арганізоўваліся раней з 8—10—12 сямей) выкідае на рынак па 50—80 п. масла ў год, да 1.000 і больш пудоў зерня, тысячы пудоў бульбы і г. д.



Малацьба ў калгасе „Расьсьвет-Пабядзіцель“ (Жлобінск. раёну).

Ужо ясна відаць зрушэньне ў сельскай гаспадарцы і справе арганізаванага снабжэньня савецкага гораду, якое асабліва будзе адчувацца тады, калі на сцэне зьявяцца першыя вынікі работы якіх-небудзь 2 год, калі асноўнымі вытворцамі і здатчыкамі прадуктаў будуць калгасы з плошчаю ў 500—1.000—2.000 і больш гектараў, калгасы, якія выкарыстаюць усе дасягненьні навукі ў галіне мэханізацыі і культурнага гаспадараньня.

Падсумоўваючы калёсальную работу, праведзеную партыяй і ўрадам, трэ‘ застанавіцца і на наступным:

У вёсцы адбываюцца рашучыя клясавыя бойкі з выкарчоўваньнем каранёў капіталізму. Кулак адчувае сваю пагібель, вядзе адкрытую барацьбу супроць арганізацыі калгасаў; клясавая барацьба пераносіцца ў самы калгас: кулак пранікае і туды, ён хоча падарваць і разбурыць калгас з сярэдзіны, ён стараецца зьвязаць калгас з прыватна-капіталістычнымі элемэнтамі вёскі і гораду, у галіне збыту прадукцыі і выкарыстаньня назапашаных капіталаў.

*На дапамогу батрацтву і бядняцка-серадняцкаму актыву вёскі павінна быць мабілізавана актыўнасьць усёй рабочай клясы.* Непасрэдны ўдзел рабочых мас у справе калектывізацыі вёскі забясьпечыць выразны клясава-пралетарскі напрамак гэтага руху. Рабочая кляса павінна панясьці ў вёску свой багацейшы, гадамі назапашаны вопыт барацьбы і будаўніцтва; рабочая кляса павінна вылучыць з свайго асяродзьдзя неабходных арганізатараў і гаспадарнікаў для новай вёскі.

Шырокія пласты рабочых нізоў ужо выявілі масавую ініцыятыву і самадзеяльнасьць сваёй дапамогай сацыялістычнай перабудове сялянскай гаспадаркі на пачатках каляктывізацыі. Рабочыя брыгады, шэфскія арганізацыі і паасобныя рабочыя-актывістыя адыгралі вялізарную ролю ў справе будаўніцтва і замацаваньня калгасаў. Цяпер трэ' перайсьці ад паасобных праяў ініцыятывы *да плянавага і сыстэматычнага ўцягненьня* шырокіх мас рабочых заводаў і фабрык да беспасярэдняга ўдзелу ў справе сацыялістычнага будаўніцтва ў вёсцы.

Гэтай мэце павінна служыць пасылка ў вёску рабочых брыгад. Масавы ўдзел рабочых у шэфскіх арганізацыях і накіраваньне працы гэтых таварыстваў у бок дапамогі каляктывізацыі вёскі, масавыя экскурсіі рабочых у калгасы і калгасьнікаў на заводы, узаемны ўдзел рабочых і калгасьнікаў на вытворчых нарадах фабрык і калгасаў.

Такія формы рабочай грамадзкасьці—як зямляцтва на фабрыках і заводах, гаксама могуць адыграць вялікую ролю ў справе каляктывізацыі вёскі.

Рабочая грамадзкасьць павінна ўзмацніць свой удзел у кіраўніцтве калгасным рухам, і ў кіраўніцтве, якое праводзіцца Калгассаюзам.

Пры калгасцэнтры і акруговых калгассаюзах неабходна арганізаваць рабочую брыгаду з рабочых, высунутых масамі буйнейшых рабочых прадпрыемстваў Менску, Віцебску, Гомеля і інш. Гэтыя рабочыя брыгады будуць прыцягваць рабочыя масы на дапамогу вёсцы па каляктывізацыі, рабочыя брыгады арганізуюць масавую інфармацыю рабочых аб практычных задачах калгаснага руху праз сходы, мітынгі і друк; брыгады будуць падтрымліваць і дапамагаць калгассаюзам і праводзіць рабочы кантроль над іх дзеяльнасьцю.

Гэтыя брыгады, правяраючы работы і іншых каапэратыўных і гаспадарчых органаў, якія працуюць на вёсцы, паслужаць асновай для замацаваньня масавага ўдзелу рабочае клясы ў барацьбе за сацыялістычную перабудову вёскі.

**Столаў.**

---

# Клімаўшчына—раён суцэльнай калектывізацыі.

Калгаснае будаўніцтва на Клімаўшчыне разгортваецца ўсё шырэй і шырэй. На 27-X па раёну каляктывізавана звыш 50.000 *га* зямельнай плошчы, 53 проц. зямлі ад агульнай плошчы раёну. Сярэдні разьмер калгаса, арганізаванага ў гэтым годзе, складае 1.500 *га*. Каляктывізацыяй ахоплен увесь раён, няма ніводнага сельсавету, дзе ня быў-бы арганізован калгас. Семь сельсаветаў: *Савініцкі, Пуцімільскі, Кісялева-Будзянскі, Дубровіцкі, Гусарскі, Хатовіцкі і Судзілаўскі* каляктывізаваны на 80—100 проц. Калгас „Камунар Магілеўшчыны“ з 4.000 *га* вырас у 8.000 *га*, а калгас „Рабочы“—з 3.000 *га* да 7.000 *га*. З боку бядняцка-серадняцкай часткі вёскі наглядаецца вялікая цяга да каляктыўных форм землякарыстаньня. Пры сучасным тэмпу каляктывізацыі можна быць упэўненым, што да вясны 1930 году будзе каляктывізавана 75 проц. зямельнай плошчы раёну. Калгасны рух на Клімаўшчыне ахапіў навакольныя з ім раёны. У Хоцімскім раёне таксама ўжо каляктызавана звыш 30 проц. зямельнай плошчы, у зьвязку з гэтым неабходна зараз паставіць пытаньне аб тым, каб навакольныя з Кліма-

віцкім раёны—Хоцімскі, Касьцюковіцкі і Крычаўскі былі вызначаны таксама раёнамі суцэльнай каляктывізацыі з цэнтрам у Клімавічах. Пры гэтым адміністрацыйныя межы гэтых раёнаў—павінны быць зьнішчаны.

Дзякуючы правадзімай суцэльнай каляктывізацыі, выкліканы шэраг новых пытаньняў у калгасным будаўніцтве, якія патрабуюць хутчэйшага вырашэньня.

## Дыфэрэнцыраваны пай у калгасах неабходны.

У апошні час, у зьвязку з існуючым калгасным рухам і суцэльнай каляктывізацыяй, у калгасы ўсё больш уцягваецца серадняцкая частка вёскі. Для замацаваньня дасягненьняў, што ёсьць у калгасным будаўніцтве, неабходна максымальнае ўцягненьне ў калгаснае будаўніцтва



Дзіцячыя гульні ў калгасе „Расьсьвет-Пабядзіцель (Жлобінскі раён).

сродкаў насельніцтва. Гэта асабліва патрэбна ва ўмовах БССР, дзе арганізоўваюцца выключна складаныя формы калгасаў—камуны, арцелі; між іншым, існуючая паявая сыстэма ў калгасах да апошняга часу ні ў якім разе не садзейнічае ўцягненьню сродкаў насельніцтва. Вытваранае абсьледаваньне больш 40 калгасаў у 3-х акругах Беларусі (Магілеў, Бабруйск, Гомель) паказала, што разьмер пая ў сярэднім у калгасах вызначаецца ў 100—150 р. Серадняцкая гаспадарка мае значна больш маемасьці, чым вызначаныя паі ў разьмеры 150 р. Наадварот, бядняцкай гаспадарцы часта непасілен пай у 150 р. У сувязі з гэткай паявой сыстэмай наглядаецца масавая распрадажа членамі калгасаў сваёй маемасьці, часта да моманту абагульваньня ў гэтых членаў застаецца толькі маемасьць, якая раўняецца ўстаноўленаму паю. Маюцца выпадкі продажу калгасьнікамі зараз-жа пасьля ўступленьня ў калгас ня толькі жывёлы, але і калёс на жалезным ходу. Распрадажа маемасьці ў сучасны момант тлумачыцца тым, што нізкі разьмер пая, які ўстаноўлен аднолькава для серадняцкіх, больш-менш заможных і бядняцкіх гаспадарак ня стымуліруе ўцягненьню сродкаў насельніцтва ў калгасы.

Маюцца прыклады, калі бядняцкія гаспадаркі ня ўступалі ў калгас з прычыны таго, што сродкі, якія яны атрымаюць з фонду крэдытаваньня беднаты—у рахунак паю пры недахопе для папаўненьня паявых сум—500 р., прыдзецца выплачваць штогодна 50 р., г. зн. столькі, колькі заможны серадняк плаціў падатку.

Выходзячы з гэтага, трэба адзначыць, што існаваўшая дагэтуль сыстэма паявых узносаў аднолькавая для ўсіх сацыяльных груп, пры суцэльнай каляктывізацыі—ні ў якім разе ня можа застацца гэтакай і надалей. Неабходна ўстанавіць *дыфэрэнцыйныя паі, якія ў аснаўным забясьпечылі-б поўнае ўцягненьне сродкаў насельніцтва ў калгасы.* Пры гэтым, статутам калгасу павінна быць таксама прадугледжана, каб маемасьць звыш паю ў *абавязковым парадку ўносілася як уклад* пры ўступленьні ў калгас. Адначасова з гэтым, савету калгасу неабходна з пачатку арганізацыі ўзяць на вучот усю маемасьць (індывідуальную) членаў і прадажу яе ўтвараць толькі па дазволу савету калгасу. Для яшчэ большага ўцягненьня сродкаў насельніцтва ў калгасы трэба стварыць непадзельныя капіталы пры арганізацыі калгасаў шляхам процантных адлічэньняў ад маючайся маемасьці членаў пры ўступленьні ў калгас.



Дзіцячыя ясьлі ў калгасе „Расьсьвет-Пабядзіцель“.

## Стварэньне насеннага фонду ў калгасах.

Пры арганізацыі калгасу, зараз-жа выклікаецца неабходнасьць стварэньня насеннага фонду, асабліва ў буйных калгасах. У гэтай справе ёсьць шэраг ненармальнасьцяй. Ужываецца ў многіх мясцох мэтад стварэньня насеннага фонду па ліку членаў і зусім ня ўлічваецца індывідуальны пасеў кожнага члена да ўступленьня ў калгас. Часта бядняцкая гаспадарка павінна даць у лік насеннага фонду больш серадняцкай. У зьвязку з вялікай сур'ёзнасьцю гэтага пытаньня, неабходна асобным пунктам у статуце ўказаць—як ствараецца насенны фонд, прычым разьмеркаваньне ўтвараць не прапарцыянальна па членам, а па пасеўнай плошчы кожнага члена да ўступленьня ў калгас.

### Плянавая арганізацыя будаўніцтва.

У зьвязку з шпаркім тэмпам разьвіцьця калгаснага будаўніцтва і ахопам у адзін калгас 5-6, а часта і 10 насялёных пунктаў, маецца шэраг выпадкаў, калі калгас як толькі арганізаваўся, зусім ня ўлічвае, якія насялёныя пункты павінны яшчэ быць далучаны да яго і ў якім насялёным пункце мэтазгодней арганізаваць цэнтр калгасу, будаваць тэхнічныя прадпрыемствы. Часта робяцца розныя капітальныя затраты зусім нерацыянальна. У мэтах зьнішчэньня гэтых маючыхся недахопаў, неабходна ўва ўсіх раёнах, вызначаных для суцэльнай каляктывізацыі, па прыкладу Клімавіцкага раёну заняцца вывучэньнем гэтых раёнаў у разрэзе населенага пункта як з эканамічнага, гэтак і натуральна-гістарычнага боку. На падставе гэтага вывучэньня, *устанавіць с.-г. напрамак, які павінен быць прыдан раёну, намеціць, якія прадпрыемствы мэтазгодна будаваць, і месца пабудовы іх вызначыць у цэнтры калгасаў і куставых аб'яднаньняў*. Гэтым самым зьнішчым усялякую стыхію ў будаўніцтве калгасаў.

### Ці патрэбны райкалгассаюзы.

У раёнах суцэльнай каляктывізацыі, як, напрыклад, Клімавічы налічваецца пад калгасамі зямельнай плошчы значна больш, чым у іншых акругах. У Віцебску пад калгасамі занята прыблізна—40.000 *га*, а ў Клімавічах ня звыш 50.000 *га*. Упаўне зразумела, што ў раёнах суцэльнай каляктывізацыі наглядаецца вялікая патрэба ў абслугоўваньні калгасаў, якая лепш усяго можа ажыцьцяўляцца ў раёне. Таму трэба лічыць мэтазгодным і неабходным арганізаваць у раёнах суцэльнай каляктывізацыі райкалгассаюзы, якія-б сыстэматычна ажыцьцяўлялі арганізацыйнае кіраўніцтва над калгасамі. Гаспадарчае-ж і вытворчае абслугоўваньне калгасаў неабходна вытвараць выключна праз аб'яднаны савет куставых аб'яднаньняў (камбінаты).

**М. Цынкоў.**

---

## Як арганізавалася камуна „Сталіна".

Камуна „Сталіна" яшчэ маладая. Арганізавалася яна толькі ў красавіку 1928 г. на зямлі аграпункту Гарадзішча, быўшага Якшыцкага агравучастку. Спачатку камуна атрымала толькі тую зямлю, што была пад аграпунктам, пахаці—24,5 *га*, сенажаці—8,5, саду—8,34, няўдобнай пад кустамі 17,72, папару—4,21 і сядзібы—1,72 *га*; на гэтай зямлі камуна працавала адзін год. У 1929 годзе камуне „Сталіна" прырэзана з запаснага фонду нераспрацованай пасекі 41 *га*; з быўшага саўгасу Асмалоўка пахаці і крыху з розных угодзьдзяў сядзібы. Такім чынам, камуна цяпер мае добрай распрацаванай пахаці 58,35 *га*. Распрацаваўшы пасеку 41 *га* і некаторую частку няўдобных земляў, камуна будзе мець пахаці ня менш 100 *га*, сенажаці 18 і саду 13 *га*.

Быўшы панскі дом, а таксама сырабойня да арганізацыі камуны спалены. Засталіся толькі два невялічкіх домікі і тры паўраскіданыя хлявы. Усе пералічаныя будынкі трэба рамантаваць, альбо зусім перабляць нанова. Добрага будынку камуна не атрымала. Таксама камуна не атрымала ніякага с.-г. інвэнтару, бо нават і аграпунктаўская маемасьць згарэла разам з сырабойняю. Як відаць з гэтага, камуна перажывала цяжкі арганізацыйны пэрыяд. У склад камуны ўвайшлі

беднякі, у якіх маемаснае становішча было зусім дрэннае. Усё-ж такі камунары—арганізатары камуны „Сталіна“, склалі сваю дробнюю маемасьць разам і прыступілі к працы без усялякай дапамогі.

Сьпярша цяжка было камунарам працаваць па адбудове сваёй гаспадаркі. Дзякуючы гэтым цяжкасьцям некаторыя сябры камуны ня выцерпелі і вышлі з камуны; на іх месца прымаліся новыя сябры.

Цяпер-жа камуна гаспадарча стала мацнець. Сталі паступаць заяўкі аб жаданьні ўвайсьці ў камуну. Ёсьць надзея, што к вясьне 1930 г. камуна значна разбуйнее.

У сучасны-ж момант, трэба сказаць, што становішча камуны „Сталіна“ досыць добрае. Склад камуны хоць нязначны, але сябры ўсе энэргічныя і старанныя, працуюць добра. Складаецца камуна з 5 сем'яў у ліку 20 асоб, з якіх працаздольных мужчын 9 чалавек, жанчын 4 чал.



Выезд на працу ў камуне імя Сталіна.

Рабочых коняй маецца 6 шт., кароў—11, бык—1, цалят—3, сьвіней—8 шт. Пахаці ўсіх ужыткаў 142 *га*.

Па пляну збыту с.-г. прадукцыі камуне вызначана здаць у каапэрацыю хлеба толькі 11 цэнтнэраў. Камунары-ж здаюць яго значна больш—жыта 16 цэнтн., ячменю—6, фруктаў—200 цэнтн. Акрамя гэтага па кантрактацыі здаецца жыта 2 цэнтн. і аўса 12 цэнтн.

Камунары зараз паставілі на адкорм двух парсюкоў. Малака маюць многа, частка якога ідзе сабе на харч, а рэшту перарабляюць на масла і прадаюць. Харчуюцца камунары добра. Камунары адрамантавалі стары дом: дзьверы, атынкавалі. Пабудованы новы сьвіран і будуецца новы хлеў для кароў.

Наогул, камуна „Сталіна“ працуе добра і выконвае дырэктывы ўлады. Аграном **І. Хлапіцкі.**

---

# Камуна „Расьцьвет“.

Арганізавалася камуна ў 1920 годзе з пяці бядняцкіх сямей в. Затоны, Расьнянскага раёну, Аршанскай акругі на плошчы ў 56 гектараў зямлі, якая была расчышчана з-пад лесу. Арганізатарам камуны быў Максім Сенатаў—чырвонаармеец бядняк з той-жа вёскі Затоны. Сенатаў задумаў перабудаваць сялянскае жыцьцё так, каб можна было

выбіцца з жабрацкага становішча. Чырвоная армія навучыла Сенатава, як перабудоўваць вёску на сацыялістычны лад. І вось з таго часу, як Сенатаў арганізаваў камуну, ён зьяўляецца яе незьмяняемым старшынёй.

— Я хацеў арганізаваць камуну адразу,—апавядае Максім Сенатаў гісторыю сваёй камуны,—але рэшта гаспадароў баяліся вельмі слова камуна і згадзіліся арганізавацца толькі ў арцель. Арцель, дык арцель. Але гэту арцель я арганізаваў з парадкам вядзеньня гаспадаркі, як і ў камунах. У той час цяжка было арганізаваць і арцель. Навокал бадзяліся бандыты, ды і вакольнае сялянства глядзела на нас воўкам, абыходзячы нашу арцель за сем вёрст, каб ня сустрэцца з намі.

— А ты забыўся,—перабівае Сенатава другі камунар,—як цябе сяляне звалі антыхрыстам за агітацыю арганізавацца ў камуны.

Сенатаў цяпер сьмяецца, успамінаючы гэта далёкае мінулае і ўсе тыя цяжкасьці, з якімі прышлося сустракацца з пачатку працы камуны.

— Затое цяпер мяне ўжо антыхрыстам не завуць,—сьмяецца Сенатаў. Цяпер і камуну нашу не абыходзяць за сем вёрст. Цяпер да нас



Выбіраньне бульбы ў калгасе „Прабуджэньне" бульбакапацелем (Менская акруга).

ідуць павучыцца, як весьці сельскую гаспадарку, ідуць папрасіць плуг, альбо якую-небудзь машыну. Цяпер карыстаюцца і нашымі вытворцамі—быком, жарабком і кнырам. Прыходзяць да нас і за парасятамі, каб купіць, альбо памяняць. Мала гэтага. З боку сялянства ёсьць вялікае імкненьне ўступіць у нашу камуну. Пяць сямей мы прынялі, а далей пакуль што мы пашырацца ня можам—хутары перашкаджаюць, што скулой тырчаць пад бокам. Прынялі мы пакуль што самую сапраўдную беднату, бо самі добра памятаем, як жывецца бедняку-адзіночцы. У гэтым годзе прынялі такіх беднякоў, што ў іх ні хаты, ні каня няма.

— Ды што там казаць,—дадае камунар Сяргееў, старшыня сельсавету,—прынялі мы гэту беднату на поўнае ўтрыманьне камуны. Няхай пазнаюць жыцьцё і навучацца ў камуне як жыць. Раней і мы самі да камуны мала бачылі хлеба, ня было ў што апранацца, а цяпер усё маем, не сядзім галодныя і халодныя. Таму і праца ідзе ў нас добра.

І сапраўды, калі арцель арганізавалася ў 1920 годзе (на статут камуны яна перайшла толькі ў 1923 годзе)—камунарам было вельмі трудна. У іх былі хаты, у якіх нельга было жыць, хлявы прыгодныя толькі на дровы, шэсьць каняк-гарамык, шэсьць кароў, трое цялят і тры сьвіньні, некалькі драўляных плугоў і барон, ды паламаныя калёсы. Больш нічога ня было. Адразу-ж прышлося будаваць хаты, хлявы, купляць інвэнтар і т. д. Але ў камунараў была ўпэўненасьць, што з часам іх жыцьцё палепшыцца, што яны выб'юцца на лепшую

дарогу. І сапраўды, посьпехі камуны з кожным годам былі ўсё прыкметней і прыкметней. А разам з гэтым і зьмяняліся адносіны да камуны з боку вакольнага сялянства. Ужо першыя гады, калі сяляне ўбачылі, што камунары не разьбегліся і жывуць, што ў іх ёсьць дасягненьні—перасталі сьмяяцца і пачалі заглядваць у камуну, знаёміцца з жыцьцём-быцьём камунараў.

У сучасны момант камуна мае 10 коняў для працы і 1 вытворцажарабка ды 3 жарабят. Маецца 18 дойных кароў, 10 падцёлкаў, 4 цялят і адзін бык-вытворца. Сьвіней дарослых ёсьць 21 штука, подсьвінкаў 37, парасят 45 і адзін кныр—усе белай ангельскай пароды. 30 штук подсьвінкаў камуна закантрактавала на матар'ял для бэконнага заводу. Але цяпер ужо камуне забаранілі кантрактаваць сваіх сьвіней: яны будуць іх перадаваць у суседнія калгасы на развод. Выглядаюць коні і каровы, не гаворачы ўжо аб сьвіньнях,—вельмі добра, бо за імі ёсьць і добры дагляд.

Максім Сенатаў паказвае інвэнтар. Цяпер яны маюць жнейку, малатарку з конным прыводам, дзьве сячкарні, барану рандаль, пру-



Перабіраньне бульбы ў калгасе „Прабуджэньне“.

жынную барану, тры бараны зігзаг, сакаўскі плуг, параконныя і аднаконныя плугі і калёсы на жалезным хаду.

— Патрохі ўсё нажываем,—кажа ён.—У гэтым годзе меркавалі набыць радавую сеялку. Нам абяцалі яе прывесьці, але нешта ня прывезьлі.

Усе машыны захоўваюцца ў хляве, у добрым парадку, дагледжаныя. У гэты дзень жнейка была на працы. Калі яе прывезьлі з поля, дык ня кінулі ў дварэ пад небам, а паставілі пад павець. Трэба сказаць, што наогул у камуне кідаецца ў вочы добры парадак. Максім Сенатаў і ўсе камунары ня любяць беспарадкаў. Двор камуны абгароджаны. Усё ў дварэ паложана і прыбрана да месца. Нават калі пад'яжджаеш да камуны, дык адразу бачыш нешта такое арганізаванае, калектыўнае.

У камуне васьміпольле. Сеюць жыта, авёс, ячмень, бульбу і караньплоды. Але апошнія нешта растуць дрэнна: ня спрыяе глеба, колькі яе ня ўгнойвалі і не апрацоўвалі.

— Наша зямелька закіслая,—кажа Сенатаў,—цяпер мы 11 гэктараў завапнавалі. Трудная гэта праца, аднак плян вапнаваньня выканалі. Будзем усімі спосабамі дабівацца падвышэньня ўраджайнасьці. Сеем мы гатунковым насеньнем і маем цяпер значна большы ўраджай, чымся ў нашых суседзяў сялян-адзіночак. Зьлішкі свае—насеннае зерня мы ўжо здалі дзяржаве адразу.

На пяці гектарах камунары пасадзілі сад. У іх свой гадавальнік. Маладых дрэўцаў хопіць яшчэ засадзіць такі-ж сад. У новым садзе ўжо прытулілася і пяць домікаў з пчоламі. Гэта толькі пачатак садаводзтва і пчалярства ў камуне. У іх ёсьць свой пчаляр, гароднік і садавод-камунар Сяргееў. Ён нідзе ня вучыўся гэтаму. Але калі камунары надумаліся заняцца ўсім гэтым, яны купілі ўсю патрэбную літаратуру па гэтым пытаньням, і Сяргееў пачаў вучыцца і навучыўся. Ён шчыра ўзяўся і за працу, але яе перарвалі сяляне іх савету. Не злачынствам перарвалі. Не. Камуна з сялянствам жыве добра і заўсёды аказвае беднаце дапамогу. Сяляне абралі Сяргеява старшынёю сельсавету.

Для сваіх патрэб камунары выракляюць чарапіцу, цэглу, пустацелы камень і бэтонныя кольцы. Гэтым займаецца камунар Сьцефанейка, які быў на курсах агнятрывалага будаўніцтва і скончыў іх. Цяпер ён гэтай справай займаецца ў камуне ў свабодныя ад іншай працы гадзіны. Ён-жа пабудаваў сам і сілосную яму, бетаніраваны склеп для захоўваньня розных прадуктаў зімою. Цяпер яны бетаніруюць і аснову ўсіх сваіх будынкаў і робяць іх на падмурках. Частка будынкаў з чарапічнымі дахамі.

У камуне ўсё абагулена, за выключэньнем харчаваньня. Пытаньне аб пераходзе на агульнае харчаваньне таксама даўно ўжо вырашана, але ніяк гэтага выканаць ня могуць з-за адсутнасьці памяшканьня пад агульную сталоўку.

— Валакіта з лесам,—скардзяцца камунары,—зусім заела нас. Ужо некалькі год хадайнічаем, каб намі далі лесу на пабудову агульнай сталоўкі і ўсё ніяк ня можам дабіцца. А гэта нас зьвязвае па руках і нагах. Быў-бы лес, хутка пабудавалі-б сталоўку, аслабанілі-б нашых жанчын ад працы і была-б магчымасьць разгарнуць культурна-масавую працу.

У камуне няма заработнай платы. Там кожны атрымоўвае што яму патрэбна.

Камунары выпісваюць некалькі газэт і часопісаў. З газэтамі і часопісамі добра знаёмы і дзеці камунараў. Калі мы вечарам загаварылі аб газэтах, дык дачка Сенатава, 10-гадовага ўзросту, пералічыла нам усе газэты, якія выпісвае камуна. Вось і тут ужо яскрава кідаецца розьніца дзяцей камунараў ад дзяцей сялян у вёсках, якія ня ўмеюць адказаць на простае запытаньне і больш за ўсё маўчаць. Камуна мае і бібліотэчку, у якой ёсьць больш 300 розных кніжак.

Выжылі ўжо камунары з сваіх кватэр і багоў. Трымаюцца рэлігіі яшчэ толькі бабкі ды некаторыя пажылыя жанчыны ды і то так, каб вельмі гэтага ня бачылі. Але добра і тое, што бабкі і некаторыя мамкі ня сварацца з дзяцьмі-бязбожнікамі. Дзе там ужо з імі штонебудзь рабіць, адбіваць ад бога, калі яны толькі на ўсе гутаркі антырэлігійнага характару—адказваюць маўчаньнем.

Нядаўна камуна ўступіла ў спаборніцтва з другой камунай. Цяпер узяліся камунары за выкананьне ўмоў спаборніцтва.

Так, чырвонаармеец Сенатаў Максім, бядняк з вёскі Затоны, сам выбіўся з жабрацтва і другіх за сабою вывеў.

Камуна „Расьцьвет“ яшчэ невялікая. Але за ёю вялікая будучыня. На вясну яна мяркуе значна пашырыцца за кошт уваходу вакольнага сялянства і зрабіцца вялікай камунаю. Глеба дзеля гэтага ўжо падрыхтавана.

Добрыя чуткі аб камуне „Расьцьвет“ ідуць далёка, за межы Аршанскай акругі.

**А. Мілашэўскі.**

# Будаўніцтва польскіх калгасаў у Магілеўскай акрузе.

У сыстэму 340 каляктыўных гаспадарак Магілеўскай акругі ўваходзяць арганізаваныя ў гэтым годзе 5 польскіх каляктываў з агульнай плошчаю 2.300 *га*. У сярэднім на кожны калгас прыпадае ад 350 да 500 гектараў,

Ужо зямляўпарадкаваны 3 калгасы, а ў рэшце працуюць зямляўпарадчыкі і ў бліжэйшы час праца будзе скончана і ў іх.

Мне давялося пазнаёміцца з калгасамі: „імя Дзяржынскага“, вёска Хрыпелёва, Магілёўскага раёну і „імя Домбаля“, Бялыніцкага раёну, хутар Мяжонка.

Па ініцыятыве партячэйкі падрыхтоўчая праца па арганізацыі калгасу імя Дзяржынскага пачала праводзіцца ў пэрыяд сьнежань—сакавік г. г. У пачатку арганізацыі калгасу ўступіла 2 члены КП(б)Б



Захаваньне бульбы ў капец у калгасе „Прабуджэньне“.

і 6 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. У красавіку гэты склад папоўніўся да 21 гаспадаркі. На 1 кастрычніка калгас налічвае ў сваім складзе 34 гаспадаркі. Па сацыяльнаму становішчу сябры падзяляюцца: беднякоў—13, серадняков—17, індывідуальна абкладзеных заможных серадняков—1, служачых—3 (настаўніца, загадчык хатай-чытальняй і старшыня крэдытнага с.-г. т-ва). Індывідуальна абкладзены заможны серадняк, які меў ваўначоску, пазбаўлены выбарчых правоў. Прыняты ён у калгас па згодзе з Магілеўскім РК КПБ. Ваўначоску і ўсю сваю маемасьць ён перадаў беззваротна за выключэньнем пая.

Па партыйнаму складу: членаў КПБ—2, КСМ—4.

Уся партыйная і камсамольская праслойка вёскі ўступіла ў калгас. Партячэйкі ў калгасе няма. Яна знаходзіцца ў 8 кілёмэтрах у суседняй вёсцы, але партыйнае кіраўніцтва забясьпечана. Мяркуецца перанесьці альбо арганізаваць у калгасе ячэйку, АК і РК цікавіцца жыцьцём і працай калгасу, адчуваецца штодзённае кіраўніцтва і сувязь з калгасам. У пачатку арганізацыі калгасу вялася жорсткая клясавая барацьба. Мясцовая група кулацтва ў складзе 7 асоб зьбірала „сямейныя“ нелегальныя нарады па арганізацыі падрыву будаўніцтва калгасу. З гэтае групы 5 кулакоў арыштавана. Характэрна, што гэтыя чорнасоценцы з ДОПР‘у пішуць сваім сем‘ям аб уступленьні ў калгас. Варожы элемэнт яшчэ ня страціў надзеі падарваць калгас. У час пробнай мабілізацыі некаторыя падкулачнікі застрашвалі членаў калгасу прыходам белапалякаў і інш. ім пажаданымі прыемнасьцямі.

Старшыня Хрэпелеўскага Камзайму „абаронца беднаты“, Зайцаў Нічыпар, серадняк, але з кулацкай ідэалёгіяй, кулацкі прыхвасьцень. Ён не адстаў ад сваіх сародзічаў-кулакоў і заняўся варожай агітацыяй і работай сярод беднаты. Карыстаючыся сваім службовым становішчам ён хадзіў па сялянскіх хатах, быццам па збору сяброўскіх узносаў для Камзайму, агітаваў сялянства супроць уваходу ў калгас. Калі яго сяляне запыталі: „калі ты паступіш у калгас?“, дык ён адказаў каротка: „дымам запахне ад вашага калгасу раней, чым я пайду ў калгас“. Зайцаў ведае адносіны кулацтва да калгасу і авансам прадсказвае будучыню калгасу. Гэты тып пакуль што знаходзіцца на свабодзе.

Ня гледзячы на тое, што калгас знаходзіцца ў такой атмасфэры, настрой калгасьнікаў добры. Большасьць калгасьнікаў імкнецца хутчэй абагуліць усю маёмасьць і нават на агульным сходзе было пастаўлена пытаньне аб арганізацыі агульнай сталоўкі.

Гаспадарча калгас мацнее, адведзена яму плошча ў 392 *га*: пахаці 320, сенажаці—40, саду—7, гароду з сядзібай—25. Зямляўпарадкаваньне ня скончана таму, што нядаўна яшчэ ўліліся 12 гаспадарак, на якіх будзе прырэзана зямля вясной. Севазварот установулены 8-міпалёвы. На 1 кастрычніка засеяна 30 *га* жыта і 20 *га* пшаніцы. Па пляну прадугледжваецца давесьці да 40 *га* жыта. Уся плошча засеяна сартавым насеньнем у роскід рукамі, таму, што сеялка, набытая крэдытным с.-г. т-вам ня мела нейкіх частак. Спазьненьне з пасевамі азімых зьвязана з разгорнутым будаўніцтвам камбінаванага млыну, а таксама з уборкай караньплодаў на індывідуальных гаспадарках. Фонды на каапэраваньне беднаты скарыстаны поўнасьцю. Паслана заяўка Акркалгассаюзу на машыны, с.-г. прылады, штучнае ўгнаеньне, сартавое насеньне ўсяго на суму 42 тысячы рублёў. Калгас з таргоў купіў за 3.950 р. млын з рухавіком унутранага згараньня, сукнавалкай і цыркулляркай. Пасьля сканчэньня васеньняй пасеўкампаніі калгас прыступае да падрыхтоўкі будаўнічых матар'ялаў для пабудовы агульных абор для жывёлы і жыльлёвых будынкаў членам калгасу, з такім разьлікам, каб з вясны ўсё абагуліць. У гэтым годзе калгас выкінуў таварнай прадукцыі: 2.000 пудоў яблык і 100 пудоў жыта. Калгас часткова забясьпечан складанымі с.-г. машынамі, прыладамі і сродкамі перасоўкі. Рабочых коняў мае 31, кароў 35, цялушак 2-летак—2, цялят—10, авечак—30, сьвіньняў—31, парасят—15. Гаспадарка адчувае патрэбу ў трактары і складанай малатарні. Калгас знаходзіцца ў 12 кілёмэтрах ад чыгункі. Пад калгас адведзена добрая глеба і 40 *га* сенажаці, што, бязумоўна, стварае прадпасылкі для разьвіцця інтэнсыўнай гаспадаркі з жывёла-паляводчым ухілам. Калгасам закантрактавана 20 *га* жыта. Арганізаваны сумесна з вёскай чырвоны абоз, здана хлеба 100 пудоў калгасьнікамі, 200 пудоў—сялянамі. На тэрыторыі калгасу маецца нацыянальны сельсавет, школа і хата-чытальня, дзе вядзецца культурная праца сярод усяго насельніцтва. Выпісваюцца газэты: „Праўда“—2 экз., „Зьвязда“, „Савецкая Беларусь“, „Трыбуна“ і „Орка“.

У першы дзень каляктывізацыі калгасам прынята ў свой склад 4 бядняцка-серадняцкіх гаспадаркі, арганізаваны нядзельнік у карысьць фонду каапэраваньня беднаты. Для другога дню калектывізацыі і ўраджаю праводзіцца падрыхтоўчая праца па заключэньню дагавару па сацыялістычнаму спаборніцтву, які будзе заключаны з суседнім польскім калгасам „імя Домбаля“, а таксама зьбіраюцца экспанаты на раённую с.-г. выстаўку.

Можна спадзявацца, што калгас у бліжэйшы час будзе ўяўляць з сябе буйную сацыялістычную гаспадарку. Залогам гэтаму служыць аб'яднаньне калгасьнікаў навокал партыйна-камсамольскага асяродку

калгасу, пажаданьне абагуліць хутчэй усю маёмасьць, а таксама ўзмацненьне працоўнай дысцыпліны яго членаў.

Калгас „імя Домбаля“ створан на землях „працоўнага карыстаньня“ хутароў Мяжонка, гаспадары якога мелі ад 20—50 *га*. Калгас арганізаваўся вясной у 1929 годзе з некалькіх бядняцкіх сямей і адзінак. У сучасны момант ён аб'ядняе 20 сямей. Склад яго няўстолівы і цякучы. Характэрна тое, што больш няўстойлівай часткай зьяўляецца бедната, што тлумачыцца ўплывам мясцовага кулацтва, былых гаспадароў гэтых беднякоў, а галоўнае, адсутнічаньнем належнае партыйнае і культурна-асьветнай працы сярод беднаты.

Партыйна-камсамольская праслойка ў калгасе слабая, адзін член КПБ—хатнік, які добра працуе, але адзін ён ня можа ахапіць такую вялізарную працу. Члены КСМ ня прымаюць актыўнага ўдзелу ў будаўніцтве калгасу.





Выбіраньне бульбы ў вёсцы (Пятроўшчына, Сьмілавіцкага раёну, Менскай акругі).

У час арганізацыі калгасу кулацтва адкрыта выступала на сходах супроць калгасу і нават пагражала. Актыўная частка кулацтва выслана за межы БССР. Яшчэ цяпер у захаванай форме рэшткі яго праводзяць дастаткова тонкую работу.

У Мяжонцы, як і Хрэпялеве ў час пробнай мабілізацыі кулакі Рабчынскі, Барчэўскі і інш. агітавалі і застрашвалі калгасьнікаў. Ксяндзы, якія раней часта наведвалі сялянства, цяпер не прыяжджаюць, але вядуць працу канспіратыўна праз кулацтва, якое зьвязана з касьцёлам у другіх мясцовасьцях.

Калгас ужо зямляўпарадкаваны, пад яго адведзена плошча ў 400 *га*, прыступлена да абагуленьня пасеваў. Па пляну намечана засеяць 20 *га* жыта, а засеяна 8, з прычыны таго, што асноўная маса калгасьнікаў была занята працай на сваіх індывідуальных гаспадарках. У калгасе маецца млын з лёкамабілем, але ён знаходзіцца ў хаотычным становішчы.

На агульным сходзе пастаноўлена палепшыць працу яго шляхам прымацаваньня адказнай асобы з членаў калгасу.

Наглядаюцца выпадкі распрадажы і абмену маемасьці, падлягаючай перадачы ў калгас. Для барацьбы з гэтым зьявішчам агульным сходам абрана вучотная камісія, якая падлічыць усю маемасьць калгасьнікаў. Дысцыпліна ў калгасе слабая, што тлумачыцца слабым складам савету, а таксама адсутнічаньнем партыйнага кіраўніцтва ўнутры калгасу. Раённы камітэт КПБ і Польбюро АК цікавіцца працай у нацыя-

нальных калгасах, часта робяць выезды, але гэта мала дае карысьці. Для аздараўленьня калгасу, хутчэйшага абагуленьня маемасьці неабходна: 1) узмацніць партыйнае кіраўніцтва унутры, каб супроць кулацкіх наступаў павесьці належную контр-атаку; 2) разгарнуць штодзеную палітычную, культурна-асьветную працу; 3) ізаляваць калгас ад кулацкай агітацыі і 4) прымацаваць да яго рабочыя шэфскія арганізацыі. Тых, хто прабуе выступіць супроць сацыялістычнай перабудовы вёскі, сурова пакараць.

**Мацьвеенка.**

---

# Сельска-гаспадарчая арцель „Новае Жыцьцё".

## I. Узьнікненьне арцелі.

Арцель знаходзіцца ў 12-ці кілёмэтрах ад мястэчка Смалявічы. Арганізавана арцель на зямлі запаснага фонду ў 1924 г. Сюды прышлі шукаць новага жыцьця—яўрэі з розных мястэчак, былыя гандляры і людзі неазначаных прафэсій. Іх было ўсяго 19 працаздольных чалавек.



Сябры арцелі „Новае Жыцьцё".

Ня спыніла іх тое, што прышлося поўгода жыць у палатках у садзе (жыльлёвыя памяшканьні былі яшчэ заняты батракамі), што амаль ня было ніякага інвэнтару і жывёлы, што ўсё ваколічнае насельніцтва варожа глядзела на іх і перашкаджала ў працы. З 163 88 *га* арцелі зямлі было 86 *га* пахаці, 9 *га* саду і 37,31 *га* балота. Як сад, так і пахаць знаходзіліся ў такім спустошаным становішчы, што чакаць якога-небудзь ураджаю ад іх без настойлівай працы, апрацоўкі і ўгнаеньня нельга было.

Сябры арцелі прывялі з сабою 3 коняй і 6 кароў. Потым купілі яшчэ 3 коняй і некаторыя сельска-гаспадарчыя прылады. Крэдытаў атрымалі ў першы год усяго 600 рублёў, і з такімі маленькімі сродкамі арцель дружна пачала працу.

## II. Разьвіцьцё гаспадаркі.

У першы год быў абгледжаны сад. Прыбытковасьць яго яшчэ вельмі малая, каля 2.000 руб. валавога прыбытку ў год. Але ў наступныя гады, дзякуючы далейшаму догляду, ён ужо ў 1926 г. даў 3.500 р., а ў 1928 г.—5.000 руб. валавога прыбытку. Ня менш пасьпяхова ішло разьвіцьцё другой галіны гаспадаркі—гародніцтва. Пачалі з гароду на плошчы $^{3}/_{4}$ *га* ў 1925 г., і, упэўніўшыся ў яго прыбытковасьці, арцель далей шпарка пашырае гародніцтва. У гэтым годзе пад гародам было 7 *га*, з якіх 3 *га* на асушаным балоце. Гэты гарод даў каля 8.000 руб. валавога даходу. У галіне паляводзтва, дзякуючы рацыянальнай апрацоўцы і ўгнаеньню глебы, удалося значна падвысіць ураджайнасьць. Поле арцелі служыць прыкладам для ваколічнага насельніцтва.

Уведзен 8-палёвы севазварот з пасевам бульбы да 20 проц. ад усяе плошчы пахаці. Гэтаму садзейнічала пабудова Менакрвыканкомам



Агульная сталоўка ў арцелі „Новае Жыцьцё".

на тэрыторыі арцелі крухмальнага заводу. Самым балючым пытаньнем для арцелі было забясьпечваньне кармамі жывёлы. Арцель амаль зусім ня мела сенажаці і добрага выгану. З 1926 г. пачалася мэліорацыя балота і ў першы-ж год было асушана і залужана $^{3}/_{4}$ *га*, у наступны год яшчэ 3 *га* і г. д. У гэтым годзе праведзена залужэньне на плошчы 11 *га*, а ўсяго асушана і залужана ўжо 20 *га* балота. Акрамя гэтага, у гэтым годзе закладзены на балоце гарод на 3 *га*, які абяцае вялікі ўраджай, асабліва капусты і кармовых буракоў. Для павялічэньня колькасьці кармоў праводзіцца сіласаваньне. У першы раз (у 1927 г.) засіласавалі ў звычайных ямах 400 пуд. розных кармоў. У мінулым годзе 600, а ў сучасны момант канчаецца ўжо пабудова сіласных ям з бэтону на 2.000 пуд. сілосу.

Інтэнсыўна разьвіваецца жывёлагадоўля і малочная гаспадарка. Большая частка стада папоўнілася палепшанымі мясцовымі каровамі. У арцелі цяпер 40 дойных кароў, 1 бугай і 10 галоў маладняка. Для пераапрацоўкі малака пабудаваны сыраварны завод, на якім вырабляецца галяндзкі сыр. У мінулым годзе заведзены сьвіньні, якіх цяпер 29 штук. Цяпер арцель рыхтуецца да пабудовы вялікага сьвінарніка. Такім чынам, гаспадарка ідзе па інтэнсыўнаму малочнаму і садова-гароднаму

напрамку. Арцель шпарка разьвівалася. Балянс арцелі на 1-X—27 г. складаў 30.930 руб., а на 1-X—1928 г. складае ўжо 44.975 руб.

Крэдытаў маецца параўнаўча мала, каля 14.000 руб. Арцель атрымала прэміі і пачэсныя дыплёмы:

1) На с.-г. выстаўцы 1926 г. ганаровы дыплём за добрую культуру балота.

2) На с.-г. выстаўцы 1927 г. ганаровы дыплём за шчырую і культурную працу ў галіне ральніцтва, гародніцтва і культуры балот.

3) На Ўсебеларускім конкурсе калгасаў 1928 г. дыплём 1-й ступені, за значнае накапленьне абагуленага капіталу, штогодняе павышэньне прыбытковасьці гаспадаркі, яе таварнасьці і ўплыў арцелі на навакольнае насельніцтва.

### III. Культпраца і быт.

Культурны ўзровень сяброў арцелі параўнаўча даволі высокі, няпісьменных амаль зусім ня маецца. Ёсьць камсамольская група ў 11 чалавек, якая, праўда, працуе яшчэ вельмі дрэнна. У зімні час працуюць розныя гурткі. Выпісваецца шмат газэт і часопісаў. Часам вы-



Жарабец выхаваны ў калгасе „Расьцьвет", Аршанскай акругі.

даецца насьценная газэта. Маецца радыё-гучнагаварыцель. Але ня гледзячы на ўсё гэтае і галоўнае на наяўнасьць значнай групы камсамольцаў і моладзі, культпраца пастаўлена ў арцелі яшчэ слаба. Не працуе культкамісія і ўся культпраца мае выпадковы характар.

У бытавым жыцьці арцелі маецца за апошні год значнае зрушэньне. Арганізавана і адчынена агульная сталоўка, дзе пакуль што харчуюцца ня ўсе сябры, а чалавек 25. Рэшта, найбольш старыкі, у сталоўцы не харчуюцца, то па „набожнасьці". то з погляду, што агульнае харчаваньне будзе каштаваць даражэй. Сталоўка нядаўна арганізавана і ня мела магчымасьці так упарадкаваць працу, каб давесьці на справе мэтазгоднасьць і выгаднасьць агульнага харчаваньня. Трэба спадзявацца, што ў больш вольны зімні час яна гэта давядзе і прыцягне ў сталоўку ўсіх сяброў арцелі.

## IV. Адносіны з ваколічным насельніцтвам і ўплыў арцелі.

Па меры разьвіцьця гаспадаркі і ўзмацненьня арцелі, адносіны з ваколічным насельніцтвам палянпшаліся. З аднаго боку праца арцелі служыла для ваколічнага насельніцтва прыкладам выгаднасьці і мэтазгоднасьці каляктыўнай гаспадаркі, з другога боку арцель уступала ў больш цесную сувязь з насельніцтвам. Арцель аказвала дапамогу бядняцкім гаспадаркам. Быў выпадак, калі арцель апрацавала зямлю ўдавы, засеяўшы яе сваім насеньнем. У выніку атрымаўся нябывалы для таго пасёлку ўраджай, каля 80 пуд. з гектара. Цяпер ваколічнае сялянства прыходзіць часта ў арцель, заходзіць у памяшканьні калгасьнікаў і агульную сталоўку і адчувае сябе як дома.

Арцель стала школай каляктывізму і яе ўплыў мае ўжо добрыя вынікі. Уся мясцовасьць навакол арцелі абяцае ў недалёкай будучыне каляктывізавацца. Навакол арцелі арганізаваны яшчэ тры с.-г. арцелі і адно таварыства па супольнай апрацоўцы зямлі. Сярод ваколічных пасёлкаў можна цяпер знайсьці дзесяткі сялянскіх двароў і многа былых рабочых Алесінскага саўгасу, якія-б зараз-жа далучыліся да арцелі „Новае Жыцьцё“. Нажаль, арцель яшчэ не падрыхтавана, каб стаць інтэрнацыянальнай. Надалей-жа гэта пэрспэктыва ёсьць, што дасьць магчымасьць давесьці плошчу арцелі да буйных разьмераў.

## V. Асноўныя недахопы ў працы арцелі.

Недахопы маюцца, галоўным чынам, у арганізацыі працы. Аплата працы па трудавым дням не стварае зацікаўленасьці ў якасьці і колькасьці выконваемай працы. Сярод сяброў арцелі адсутнічае цьвёрдая трудавая дысцыпліна, няма ўнутранага распарадку.

Зжываньню гэтых недахопаў перашкаджала дрэнная праца савету арцелі, які, ня гледзячы на шэраг даных яму ўказаньняў і пастаноў агульных сходаў аб падняцьці дысцыпліны і пераходу на мэтад аплаты працы па колькасьці і якасьці, да гэтага часу гэтых пастаноў ня выканаў.

Гэты асноўны недахоп у працы арцелі, які затрымлівае разьвіцьцё гаспадаркі, трэба зьнішчыць у самы бліжэйшы тэрмін. Трэба правесьці ў жыцьцё ўсе пастановы адносна ўстанаўленьня цьвёрдай дысцыпліны, накладаньня розных спагнаньняў за парушэньне ўнутранага распарадку. Апошнія трэба выпрацаваць падрабязна для ўсіх галін гаспадаркі. Павесьці падрыхтоўчую працу, каб з новага гаспадарчага году перайсьці на форму аплаты труда па яго якасьці і колькасьці. Выдачу авансаў сябрам арцелі ў лік працы далей праводзіць не па едакох, трудавым адзінкам, а па табелі работ прапарцыянальна патрачанай працы з пэўнай надбаўкай на непрацаздольных.

Усе гэтыя мерапрыемствы значна ўзмоцняць працу арцелі і дадуць шырокія магчымасьці далейшаму разьвіцьцю гаспадаркі.

Агранoм **З. Пікус.**

---

## ПАПРАЎКА.

У артыкуле „Саўгас Палялюм“ на стар. 32 часопісу „Шл. Кал.“ № 4 памылка друкарні — надрукавана: „Сярэдні гадавы ўдой каровы ў 1927 годзе быў каля 1.350 кгр., а ў 1928 г.—каля 16.300 кгр., а трэба—1.630 кгр.“

# ПА АКРУГАХ І РАЁНАХ.

## Вынікі каляктывізацыі на Шклоўшчыне.

Зямляўпарадкаваньне на Шклоўшчыне было распачата з вясны. Для гэтае працы прыслана было 27 каморнікаў.

Добра была пастаўлена партыйнымі і савецкімі арганізацыямі праца па растлумачэньню вясковаму насельніцтву карысьці абагульваньня паасобных сялянскіх гаспадарак.

За гэты летні пэрыяд арганізавана 20 новых калгасаў, у якія аб'яднана 254 гаспадаркі. Акрамя таго, узбуйнены камуны і калгасы што арганізаваліся раней. Зараз па ўсяму раёну аб'яднана ў калгасы 351 гаспадарка з плошчаю 5.040 *га*. Такім чынам, плян выкананы на 92 проц. Асаблівасьці калгасаў Шклоўшчыны ў тым, што іх многа, але яны дробныя. Праўда, ёсьць і буйныя, напрыклад, калгас імя *„Кастуся Каліноўскага“*—мае плошчу ў 648 *га*. У сярэднім-жа калгасы маюць плошчу 200 *га*, што, бязумоўна, вельмі мала ў параўнаньні з тымі калгасамі, якія зараз арганізоўваюцца на Клімаўшчыне. У бягучым 1929-30 годзе мяркуецца арганізаваць 22 калгасы, дагнаўшы плошчу да 8.930 *га*. Акрамя гэтага, мяркуецца ўзбуйненьне старых калгасаў далучэньнем да іх новых гаспадарак.

Што гэта выпаўніць можна будзе, сьведчыць шэраг запрашэньняў сялян, каб прышлі да іх зрабіць даклад, як арганізавацца ў калектыў. Якія цяжкасьці і недарэчнасьці былі ў часе агульнага зямляўпарадкаваньня і каляктывізацыі на Шклоўшчыне?

Галоўнымі недахопамі трэба лічыць тое, што актыў вёскі, а разам і ўся бедната не дастаткова ўразумела палітыку партыі ў правядзеньні каляктывізацыі. Мелі месца выпадкі, калі прадстаўніку РВК, які прыяжджаў арганізаваць калгас, не дапамаглі арганізацыі вёскі: як ЛКСМ ці сельсавет. Яны лічаць, што гэта справа толькі Райвыканкому, а ня ўсіх. Групы і сходы беднаты не прапрацавалі пытаньня аб каляктывізацыі, таму былі выпадкі, калі бядняк выступаў супроць калгасу. Праўда, нельга не адзначыць, што агульнае зямляўпарадкаваньне да некаторай ступені затрымлівала ход каляктывізацыі: некаторыя беднякі гаварылі адчынена: „чаго мне ісьці ў калгас, калі я тут на месцы атрымаю лепшую зямлю“.

Трэба адзначыць адсталасьць жанчын, якія выступалі супроць каляктываў. Былі моманты, калі гаспадары, што ўвайшлі ў калгас, праз тры дні выпісваліся выключна толькі таму, што жонка, як кажуць, „загрызла“ яго дома. Гэту цёмную масу скарыстоўваў кулак, пускаючы розныя недарэчныя чуткі: „што ў калгасе малака даюць толькі адну шлянку, што вось адзін там калгасьнік хадзіў і прасіў хлеба, што там бязупынная сварка ды бойкі і г. д.“ А жанчына, як больш цёмная, гэта падхопвала і разносіла па вёсцы.

Пачнеш дапытвацца, хто гаварыў, дык пойдзе ад Аўгіні да Гарпіны і ўрэшце гаварыла жонка кулака.

Назіраўся таксама хвасьцізм некаторых гаспадароў партыйцаў і камсамольцаў.

Мелі месца факты, калі каморнікі падрывалі працу па арганізацыі калгасу, як, прыкладам, Канецкі, які скрыўляў клясавую лінію. Разьбіў плошчу зямлі вёскі Серцісла́ў на 4 роўныя часткі і ня выдзеліў лепшай зямлі калгасьнікам, а так проста сказаў: „калгасаўцы, куды хочаце, вось перад вамі любое поле“.

Праўда, гэтыя памылкі РВК былі адразу выпраўлены і зараз там арганізаваны калгас з 23 гаспадарак. Пры агульным зямляўпарадкаваньні і каляктывізацыі райвыканком ня здолеў поўнасьцю абслужыць арганізаваных калгасаў, шляхам прымацаваньня на тыдзень або два члена РВК у калгас для кіраўніцтва дапамогі. Таму мелі месца выхады некаторых членаў з калгасу.

Зараз усё гэта ўлічана, актыў як раённы, так і вясковы зразумеў лінію партыі ў правядзеньні каляктывізацыі, і справа пашла лепей. У сучасны момант узяты напрамак на замацаваньне і пашырэньне арганізаваных калгасаў, ня спыняючыся перад арганізацыяй новых. Нова арганізаваныя калгасы ўжо ўсе свае лішкі збожжа здалі ў каапэратыў. Трэба толькі забясьпечыць калгасы кіраўнікамі-арганізатарамі і сельска-гаспадарчымі машынамі, асабліва трактарамі.

**Г. Шумілаў.**

---

# „Дзень ураджаю і каляктывізацыі“ ў вёсцы Шышчыцы“, Грэскага раёну, Менскай акругі.

*(З блёк-ноту камандыраванага).*

Райземчасткай я быў цакіраваны для правядзеньня ўрачыстага паседжаньня перад днём „Ураджаю і каляктывізацыі“ ў вёску Шышчыцы. У вёсцы 101 гаспадарка, з якіх 13 уваходзіць у каляктыў, арганізаваны вясной 1929 г. Вёска зямляўпарадкавана. Для каляктыву выдзелена плошча ў 260 *га*. На вёсцы ёсьць актыў, на чале якога партячэйка і старшыня сельсавету. Актыў і ячэйка цалкам уваходзяць у каляктыў. Настрой сялянства вёскі Шышчыцы, прыхільны да калгасаў. Моладзь увесь час гаворыць: „трэба ісьці ў каляктыў, трэба падзяліцца з бацькам, які ў каляктыў ісьці не жадае. Вось к вясьне я абавязкова ўступлю ў каляктыў“.

Гэтая ўстаноўка ўзята ўсёй вёскай. Яна прыняла выжыдальную пазыцыю. Чакае, што будзе з каляктывам. Ці добра пойдзе ў ім работа, ці добрае будзе ў ім жыцьцё. Момант вельмі адказны. Калгас павінен, як кажуць, „паказаць і даказаць“. І ня толькі для гэтай вёскі, а і для вакольнай мясцовасьці, прыкладна, 10 кілёмэтраў навокал.

З некаторай цяжкасьцю склікаецца ўвечары агульны сход. Акрамя пытаньня па справаздачы жанчын-дэлегатак, пастаўлены даклад калгасу і мой садаклад.

Памяшканьне напоўнена да адказу. Шмат жанчын. Справаздачу па калгасу робіць старшыня—вясковы актывісты. З вялікай цікавасьцю слухае вёска яго даклад. Трактар, штучнае ўгнаеньне і г. д. Але вёска маўчыць, яна пакуль што толькі наглядчык.

Пасьля-ж сходу і на заўтра з раніцы ў мяне перабывала шмат наведвальнікаў, па справах калгаснага будаўніцтва. Задаюць шэраг пытаньняў аб узносах, растэрміноўцы іх і г. д. Адчуваецца недахоп у простым сялянскім даведніку па калгасах. У ім павінны быць прыклады ўзорных калгасаў, іх правілы ўнутранага распарадку і г. д. На гэтым грунце ў маладым калгасе здараецца шэраг недарэчнасьцяй. Сярод сяброў калгасу ёсьць служачыя, якія працуюць і на старане. Вось і недарэчнасьць. Былі ў мяне наведвальнікі, можна казаць, і іншага лягеру. Напрыклад: заможны селянін выдзяляецца з гаспадаркі добрахвотна з вельмі малой маемасьцю. Па спэцыяльнасьці гэты гаспадар падрадчык, робіць падрады і плаціць індывідуальны падатак.

Па аб'ёму атрыманай ім гаспадаркі—ён бядняк. Частка калгасу за яго прыняцьце, як патрэбнай пры будаўніцтве асобы. Частка супроць. Ці не адчуваецца ў дзеяньнях гэтага „спэца“ жаданьне прабрацца ў калгас з мэтай ні-то абагачэньня, ні-то нават і разлажэньня?

Мясцовым працаўнікам трэба дэталёва высьветліць склад гэтага калгасу і ачысьціць яго ад выпадковых і шкодных элемэнтаў за лік беднаты.

А. А—ў.

## Каляктывізацыя 10 сельсаветаў раёну.

Пастановы XV партзьезду і XVI партканфэрэнцыі сталі праводзіцца ў жыцьцё ў практычнай працы. Рагачоўскі раён скора будзе каляктывізаваны суцэльна. Вось чаму РВК, разам з партыйнымі і грамадзкімі арганізацыямі прыняў усе меры да практычнага вырашэньня поўнай каляктывізацыі 10 сельсаветаў, якія злучаны паміж сабою калгасамі ў ліку 34 на плошчы 7.000 гектараў. Сьвержанскі сельсавет ужо каляктывізаваны на 80 проц. У адносінах-жа лічбы насельніцтва, гэты падраён каляктывізаваны на 15 проц.

Калі разглядаць заявы сялянскіх сходаў, пададзеныя ў РВК, то большасьць іх падае на гэты падраён, а ўсяго з 10 сельсаветаў. Ёсьць нават калгасы з хутароў Сталыпіна і Прышчэпава, якія самі кінулі навязаную ім форму дзеячом правага ўхілу—Прышчэпавым.

Каляктывізацыі гэтых 10 сельсаветаў цяпер зьвернута ўся ўвага з боку грамадзкасьці раёну. Трэба адзначыць, што з гэтай задачай можна справіцца, бо ў гэтым падраёне працуе 5 партячэек, 8 камсамольскіх ячэек, 2 савецкія гаспадаркі, 2 крэдытовых т-вы, 2 сямігодкі, адна больніца і інш. грамадзкія арганізацыі, якія практычна ўдзельнічаюць у вырашэньні задачы сёнешняга дню. З гэтай задачай РВК парашыў справіцца к 1 кастрычніку 1930 г. Да наступнага дню „Каляктывізацыі і ўраджаю“ мы будзем мець вялікі ўклад у сацыялістычны сэктар пралетарскай дзяржавы. Каб гэтыя пастановы не засталіся на паперы, створана брыгада з адказных працаўнікоў раёну і акругі, якая будзе адказваць за ход каляктывізацыі 10 сельсаветаў. Каб лепш абслужыць гэты падраён, зьняты аграномы з вучасткаў і прымацаваны да сельсаветаў, якія каляктывізуюцца. Такім чынам, праз год мы будзем мець у сацыялістычным сэктары 47.000 гектараў зямлі з тысячамі сялянскіх двароў, дзе загудзе трактарная калёна, выкарчоўваючы сталыпіншчыну. Так на справе ажыцьцяўляецца генэральная лінія партыі бяз хістаньняў і недавер'я ў сацыялістычнае будаўніцтва.

Я. М. Савіцкі.

## Каляктывізацыя на ўсе 100 працантаў.

*(Мазырская акруга, Калінкавіцкі раён, Даманавіцкі с/с.).*

У Калінкавіцкім раёне, у працягу 1929 году арганізавана 32 новых калгасы з абхопам 511 сялянскіх двароў, з сярэдняй плошчаю зямлі на адзін калгас да 350 *га*.

Асобна застанаўлюся на Даманавіцкім сельсавеце. Ён мае 1.134 двароў з агульнаю плошчаю зямлі больш 11.000 *га*. Існавала тут хутарская сталыпінская сыстэма землякарыстаньня. Зараз с/с цалкам перай-

шоў на суцэльную каляктывізацыю ўсяго раёну. У сучасны момант арганізавана 11 калгасаў, з якіх палова буйных, больш 1.000 *га* зямлі.

У мэтах замацаваньня і пашырэньня мерапрыемстваў, правадзімых па каляктывізацыі сельскай гаспадаркі і эканамічнага ўзмацненьня ўжо арганізаваных калгасаў — Калінкавіцкаму райвыканкому трэба будзе і ў далейшым сыстэматычна праводзіць работу па арганізацыі новых буйных калгасаў па ўсяму раёну, ахопліваючы калгасным будаўніцтвам цэлыя вёскі і сельсаветы, узбуйняючы і ўмацоўваючы ўжо



Менскае с.-г. садова-гароднае таварыства. Засолка гуркоў.

існуючыя каляктыўныя гаспадаркі і кіраўніцтва імі, адначасна вядучы самую рашучую барацьбу з кулацтвам і заможнаю часткаю вёскі, якая імкнецца тармазіць і зрываць сацыялістычнае калгаснае будаўніцтва ў Калінкавіцкім раёне.

Усе арганізаваныя калгасы на тэрыторыі Даманавіцкага сельсавету будуць аб'яднаны ў адзін куст. Але-ж разам з гэтым трэба будзе павесьці работу па ўздыму каляктыўных гаспадарак на вышэйшы ўзровень; шляхам уздыму ўраджайнасьці палёў, поўнага выкананьня аграмінімуму, палепшаньня працоўнай дысцыпліны сярод калгасьнікаў і інш.

Трэба будзе разгарнуць і сацыялістычнае спаборніцтва паміж калгасамі і вёскамі за поўнае выкананьне пляну, аграмінімуму, за ўзбуйненьне калгасаў і за хутчэйшае абагульваньне ўсёй маемасьці сяброў калгасаў, а таксама пашырыць пасеўную плошчу, шляхам скарыстаньня ўсіх няўжытковых зямель, разгарнуўшы шырокую работу па палепшаньню натуральных сенажацьцяй (зрэзкі куп'я, ачысткі ад хмызьняку, баранаваньне), пашырыўшы работу па здабыцьцю торфу на ўгнаеньне палёў.

У мэтах узмацненьня эканамічнага становішча Даманавіцкага куставога калгаснага аб'яднаньня і лепшага культурнага абслугоўваньня яго, Акрвыканком пастанавіў арганізаваць у гэтым кусьце трактарныя калёны і забясьпечыць агранамічна-тэхнічнымі сіламі. Акрземаддзелу запрапанована забясьпечыць зямляўпарадкоўчымі сіламі на ўвесь зімовы час і ўзмацніць кіраўніцтва будаўніцтвам у калгасах, а таксама арганізаваць у гэтым сельсавеце для калгасьнікаў доўгатэрміновыя сельска-гаспадарчыя курсы.

Акркалгассаюзу даручана зараз-жа скласьці па ўсіх калгасах Даманавіцкага куста вытворчыя пляны, а акрсельбанку запрапанована поўнасьцю забясьпечыць іх крэдытамі.

Мазырскаму аддзяленьню Гомельскага райспажыўсаюзу трэба паклапаціцца, каб адчыніць ва ўсіх буйных калгасах спажывецкія крамы, выдзеліўшы для гэтае мэты спэцыяльныя сродкі і забясьпечыўшы іх дэфіцытнымі таварамі.



Падрыхтаванае месца ў рацэ Сьвіслачы для захаваньня бочак з гуркамі на зіму. Менскае с.-г. садова-гароднае т-ва.

Акрвыканком запрапанаваў акрсельсаюзу забясьпечыць калгасы адпаведнымі машынамі, гатунковым насеньнем, мінэральнымі ўгнаеньнямі і інш., а таксама пабудаваць у раёне Даманавіцкага сельсавету цагельны завод і перадаць чарапічную майстэрню ў веданьне куста.

Акрпляну паказана на неабходнасьць вывучыць пытаньне аб пабудове ў Даманавіцкім сельсавеце электрычнай станцыі сельскага тыпу, а таксама вывучыць пытаньне аб пабудове ў раёне куста каля вёсак Кабаноўкі і Славуня буйнага тарфянога заводу, паколькі там маюцца вельмі вялікія залежы торфу.

Акрмалжывёлаводчы саюз у хуткім часе прыступіць да пабудовы ў раёне Даманавіцкага кусту буйнага масла-сыраваранага заводу. З 1929-30 навучальнага году пры Халадніцкай, Кочыцкай і Бабравіцкай школах адчыняюцца новыя камплекты.

У мэтах узмацненьня мэдыцынскай дапамогі калгасьнікам—пры Даманавіцкім мэдычна-амбуляторным пункце будзе з новага бюджэтнага году адчынена пяць коек для хворых, а для лепшага аказаньня вэтэрынарнай дапамогі—адчыняецца вэтэрынарны пункт.

Ва ўсіх калгасах Даманавіцкага кусту адчыняюцца лікпункты па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод калгасьнікаў і папаўняецца бібліятэка пры хаце-чытальне адпаведнаю літаратураю. Будзе ўстаноўлена сталая кіно-перасоўка з кіно-мэханікам за рахунак бюджэтных сродкаў акрвыканкому і адчынена трое дзіцячых ясьляў, з якіх адны сталыя на ўвесь год.

АВК запрапанаваў акрінспэктару народнае асьветы і Калінкавіцкаму райвыканкому ў тэрміновым парадку ўкамплектаваць школу сялянскай моладзі ў Даманікавічах настаўнікамі і аграпэрсаналам, пашырыўшы інтэрнат пры школе, адчыніць фізычны і хэмічны габінэты, перагледзець вучэбныя пляны школы, прыдаўшы апошняй сельскагаспадарчы ўхіл і пабудаваць плян з такім разьлікам, каб уся практычная работа школы праводзілася выключна ў камуне і калгасах кусту, з гэтаю мэтаю зямля пры школе перадаецца калгасам.

Прымаючы пад увагу, што Даманавіцкі сельсавет каляктывізаваны на ўсе 100 проц. і што сумежныя з ім саветы Ліпаўскі і Зеляніцкі па эканамічна-палітычным і бытавым умовам цесна зьвязаны з Даманавіцкім сельсаветам і часткова ахоплены каляктывізацыяй—акркалгассаюзу, акрземаддзелу і Калінкавіцкаму РВК трэба будзе прыняць усе захады да каляктывізацыі гэтых сельсаветаў на ўсе 100 проц. у пэрыяд 1930 году, аб‘яднаўшы іх у адзін буйны Даманавіцкі куст з агульнай плошчаю зямлі звыш 30.000 *га* і колькасьцю да 2.582 двароў.

**С. Лодысеў.**

---

# НЕДАХОПЫ Ў КАЛГАСНЫМ БУДАЎНІЦТВЕ

## Сям‘я, а не калгас.

*(Меншчына).*

У Самахвалавіцкім раёне, Слабадзкога сельсавету, у 1928 г. у часе зямляўпарадкаваньня арганізаваўся калгас пад назвай „Грамада“.

Што-ж гэта за калгас? Калі добра прыглядзецца, дык за шырмай калгасу ўбачыце адну сям‘ю з двума прозьвішчамі: Берастоўскія і Пятроўскія. Што гэта незаконны калгас, відаць з наступнага: Берастоўскі Мікола і Берастоўская Мар‘я ня вельмі даўно жылі разам, бо Мар‘я жонка роднага брата Міколы. Пятроўскі Мікола Юстынаў (старшыня) і Пятроўская Алеся таксама за год да зямляўпарадкаваньня жылі разам, бо Алеся жонка яго роднага брата.

Далей Берастоўскі Мікола і Пятроўскі Мікола Юстынаў дваюрадныя браты. Быў яшчэ адзін брат Берастоўскіх: Марцін, якога яны пасьля сваркі выкінулі. У сучасны момант па іх ліку ў калгасе „Грамада“ маецца 4 сям‘і, а па мойму толькі адна.

Што-ж такое? Чаму ня ведаюць аб гэтым раённыя ўстановы? Тут просты адказ: ніхто, амаль ніколі, не прыглядаўся—ня вывучаў. Запытаўся неяк я—„чаму вы больш членаў ня прымаеце?

„Няма жыльлёвых памяшканьняў“,—атрымаў адказ.

Пытаньне Смалявіцкаму РВК—„калі-ж калгас „Грамада“ пабудуе жыльлёвыя памяшканьні, каб прыняць новых членаў, калі за два гады свайго існаваньня пабудавалі толькі адну пуню“.

Вядома, што гэткі калгас будзе перабудоўваць свае будынкі 10 год і за гэты час будзе мець у сваім складзе адну сям'ю, бо больш прымаць ня будзе куды.

Ці пажадана мець такія калгасы? Не, не пажадана.

А калі непажадана, дык я з свайго боку раю раённым установам зрабіць наступнае:

1) прапанаваць калгасу „Грамада“ купіць і зараз-жа пабудаваць хату, або дзьве;

2) прыняць тых людзей, якія падалі заяўкі і завербаваць новых;

3) пасьля пашырэньня складу калгасу, аб'яднаць усю маемасьць членаў (жывёла і будынкі);

4) у хуткім часе перасяліцца на паказанае месца і

5) усімі сіламі ўзяцца выконваць пяцігодку.

Калі мае прапановы РВК палічыць за добрую параду і выканае іх, тады калгас „Грамаду“ можна будзе лічыць сацыялістычнай гаспадаркай, а пакуль што „Грамада“ ёсьць ілжэкалгас, якіх нам мець непажадана.

**Каляктывісты.**

---

# З такімі калгасамі далёка не заедзеш.

Па раённаму пляну васеньняй пасеўкампаніі дадзена заданьне с.-г. арцелі „Новае Жыцьцё“—абмяняць 300 пудоў пасяўнога матар'ялу жыта с.-г. арцелі „1-га Мая“. Выконвае гэта заданьне арцель „Новае Жыцьцё“ ня так, як сьлед. Да гэтага часу яна выдала толькі 72 пуды і то неадсартаванага, нават добра неправеянага жыта. Колькі патрачана дарэмна падвод, колькі людзкога рабочага часу для паездкі і хады за гэтым жытам—і ўсё-ж ніякіх вынікаў.

Добра што арцель „1-га Мая“ не чакала на іх здавальненьне і атрымала ў крэдыт жыта з саўгасу, якім і засеяла, а то яшчэ ня прышлося-б і пачынаць сеяць. Засталося незасеяных 7 гект., дык яшчэ і цяпер ніяк ня можам атрымаць жыта, а ўжо сёньня 25-га верасьня—самы позны тэрмін пасеву. Арцель „1-га Мая“ згубіла ўсякую надзею на атрыманьне насеньня і зьбіраецца сеяць сваім дробным—мясцовым. Такіх кіраўнікоў калгасаў трэба прыцягваць да адказнасьці. Такое выкананьне заданьняў будзе падрываць выкананьне пяцігодкі.

**Калгасьнік.**

---

## На чорную дошку.

Калгас „Чырвоны Араты“—Юравіцкага раёну, Мазырскае акругі—збывае масла на прыватны рынак. Праўленьне Мазырскага Акркалгассаюзу вынесла парыцаньне ўсяму складу праўленьня калгасу, а старшыні калгасу т. Фруману—вымову з папярэджаньнем.

Сель.-гас. Камуна „Луч Сацыялізму“, Самахвалаўскага раёну, Менскай акругі прадала на рынку прыватнікам кароў. Менкалгассаюз абвясьціў суровую вымову савету камуны і спыніў на 6 месяцаў выдачу ўсялякіх крэдытаў.

Сель.-гас. арцель „Працалюбіе“, Менскай акругі прадала 2 каровы і 3 пуды збожжа прыватніку. Акркалгассаюз абвясьціў савету арцелі вымову.

К.

---

# ПЫТАНЬНІ ДЛЯ ХУТЧЭЙШАГА ВЫРАШЭНЬНЯ!

## Падрыхтоўка тэхнічных кадраў для сельскае гаспадаркі.

У справе перабудовы сельскае гаспадаркі значнае месца займае машынізацыя, асабліва ўжываньне мэханічнай сілы пры палявых і сядзібных работах.

Трактар зьяўляецца на першым месцы па ўжываньню мэханічнай сілы пры розных с.-г. работах, дзякуючы якому і хутчэй ідзе абагульваньне сродкаў вытворчасьці ў калгасах і тэмп працы павялічваецца. Трактары ў сельскай гаспадарцы Беларусі зьявіліся ў 1923 г. і паказалі сябе ўпаўне выгаднымі. Але іх яшчэ надзвычайна мала каля—210 і ня гледзячы на вялікі попыт з боку абагуленага сэктару (саўгасаў, калгасаў), завоз іх, як дэфіцытных машын, малы, так, у 1928 г. было завезена 41, а ў 1929 г.—63.

Патрэба на 1929-30 г. пры шырока разгорнутай калектывізацыі і пашырэньні з кожным годам мэліарацыйных работ вылічваецца ў патрэбе завозу 1.250 трактараў.

І як мінімум іх будзе завезена менш, таму галоўная ўвага павінна быць зьвернута на поўнае і ўсебаковае выкарыстаньне як завазімых, гэтак і ўжо завезеных трактараў у Беларусь. Гэта прадугледжваецца плянуючымі і рэгулюючымі органамі.

Трактары будуць выключна накіроўвацца для організацыі трактарных калён пры саўгасах і калгасах.

Усяго ў 1929-30 г. павінна працаваць 55 трактарных калён, з лікам трактараў у кожнай калёне ад 10 і больш.

Ведаючы ўсё гэта, перад арганізацыямі, як Белсельтрэсту і Белкалгассаюзу, павінны цяпер ва ўсю шырыню стаць наступныя першачарговыя задачы:

1) вылучэньне месц (саўгасаў і калгасаў), дзе будуць арганізаваны трактарныя калёны;

2) падрыхтоўка рабочых саўгасаў і членаў калгасаў на курсах;

3) правядзеньне розных падрыхтоўчых работ у тых саўгасах і калгасах, дзе трактарныя калёны будуць знаходзіцца,—гэта нарыхтоўка матар'ялаў для пабудовы гаражаў і рамонтных майстэрань, а таксама і абсталяваньне іх.

Трэба аддаць больш увагі падрыхтоўцы кадраў па кіраваньню трактарамі і іх абслугоўваньню, галоўным чынам, трактарыстых, старнавых і манцёраў-мэханікаў.

У мінулыя гады трактарыстыя падрыхтоўваліся на кароткатэрміновых курсах і таму былі дрэнна падрыхтаваны. У першы час іх работы ў саўгасе або калгасе пры такіх трактарыстых рабочыя саўгасаў і члены калгасаў гаварылі: „Наш трактарысты раней баяўся трактара, ну а цяпер трактар яго баіцца". Гэта і зразумела. Курсы былі кароткатэрміновыя і практычная праца к таму-ж дрэнна пастаўлена—не хапала трактараў.

Прыступаючы самастойна да працы на трактары ў гаспадарчых умовах, трактарысты пры малой падрыхтоўцы ня мог пазбавіцца труднасьцяй, якія яшчэ больш паглыбляліся, калі ён быў адзін у гаспадарцы, бо трактары большай часткай раскіданы па асобных калгасах і саўгасах, і ён ня мог параіцца з суседам. Пры арганізацыі калён гэта будзе зжывацца.

Арганізоўваемыя курсы па лініі Асьветы для трактарыстых-старнавых 6-месячныя. Трое курсаў на 400 асоб гавораць за тое, што яны вялікія і таму трэба арганізацыйна-навучальную частку і асабліва практычную паставіць добра.

Месца знахаджэньня курсаў: 1) пры Горацкай с.-г. Акадэміі на 150 асоб; 2) пры калгасу Маркавічы, Гомельскай акругі, на 130 асоб і 3) пры калгасу Арэхаўка, Полацкай акр. на 120 асоб.

Па лініі Наркамзему будуць арганізаваны адны 6-месячныя курсы для калёнаважатых на 50—60 асоб пры Менскай машыннаспробнай станцыі. Пачнуцца гэтыя курсы з лістапада месяца.

На курсы для калёнаважатых курсанты будуць набірацца з трактарыстых, якія працуюць на працягу аднаго і некалькі гадоў на трактары. Галоўная іх мэта зьяўляецца ў тым, каб падрыхтаваць кіраўнікоў і мэханікаў арганізуемых трактарных калён. Практычныя занняткі мяркуецца правесьці пры рамонтнай майстэрні. Будзе праведзена экскурсія з імі ў адну з працуючых машыннатрактарных станцый

Ітак, за хуткае вылучэньне і падрыхтоўку новых тэхнічных кадраў, з якімі больш шпаркімі крокамі трэ' перабудаваць адсталую ў тэхніцы сельскую гаспадарку Беларусі.

**Кесараў.**

---

# За больш рацыянальнае выкарыстоўваньне сельска-гаспадарчых машын.

Вызначаны па 5-годцы тэмп разьвіцьця сельскай гаспадаркі далёка перавышае дарэвалюцыйны тэмп нашай краіны. Ён нават у тры разы вышэй, чымся тэмп у капіталістычных краінах.

Мы ўступаем у эпоху, калі сельская гаспадарка пераходзіць на індустрыяльныя рэйкі, з ужываньнем складаных машын ва ўсіх галінах гаспадаркі. Новая тэхніка дазволіць сельскай гаспадарцы перайсьці на такі шлях, які да гэтага часу быў магчымы толькі фабрычнай вытворчасьці.

Першы год выканьня нашай пяцігодкі паказаў, што вызначаны тэмп на 5 год, у галіне сельскай гаспадаркі можа быць выкананы ў 4 гады. Буйны рост калгаснага будаўніцтва, які адбыўся ў апошні год, выклікаў вялікі попыт на с.-г. машыны. Ня гледзячы на шпаркі рост нашай вытворчасьці—мы ня маем магчымасьці цалкам забясьпечыць запатрабаваньне на с.-г. машыны і рухавікі.

Пасьпяховае выкананьне нашых плянаў патрабуе ад нас: рацыянальнага выкарыстоўваньня машын і іншых сродкаў вытворчасьці, зьніжэньня сабекошту, падняцьця вытворчасьці працы і інш.

Ня гледзячы на ўсё гэтае, нашы машыны ў галіне сельскай гаспадаркі поўнасьцю не нагружаны, асабліва мы маем недагразку трактараў, на якія вельмі вялікае запатрабаваньне. Пры сярэдняй норме 100 *га* на 1 трактар пры адной зьмене, па зьвестках Групы Сельскай Гаспадаркі НКЗ, сярэдняя нагрузка на трактар у нас дасягнула ў сярэднім: на балоце 90 *га* і на пахаці 80 *га*. А ў гэты самы час машыннатрактарная станцыя імя Шэўчэнка ў УССР дае нагрузку 450 *га*, што ў многа вышэй амэрыканскіх і эўропэйскіх нормаў. Калі ў нас ў Беларусі правесьці працу трактараў на 2 зьмены і бесьперапынны тыдзень, то пры рацыянальным выкарыстоўваньні нагрузку на 1 трактар можна давесьці да 250 *га*.

Выходзячы з гэтага і згодна пастановы СНК СССР і БССР, Наркамземам прапанована Белсельтрэсту, Белкалгассаюзу, Паляводсаюзу, Калфондам і Акрза тэрмінова перавесьці сваю працу на бесьперапынны 5-дзённы працоўны тыдзень. Адначасова прапанована прыняць тэрміновыя крокі да падрыхтоўкі адпаведных кадраў тэхнічнага пэрсаналу для пераводу работы ўсіх с.-г. машын і рухавікоў (трактараў, вапняныя млыны, зямлячарпалкі, карчаваньне і інш.) на 2-зьменную работу. Улічваючы недахоп у с. г. машынах, мы павінны імкнуцца да таго, каб найбольш рацыянальна выкарыстаць гэтыя машыны.

Калгасы, саўгасы, калфонды і інш. с-г. прадпрыёмствы павінны ўзяцца са ўсёй рашучасьцю за падрыхтоўку кадраў шляхам каротка-тэрміновых курсаў і гурткоў на мясцох. Маючы аднаго добрага трактарыстага—упаўне можна падрыхтаваць яму 2-х—3-х памоцнікаў.

Па лініі Белсельтрэсту і Калгассаюзу, па нашаму погляду, неабходна распрацаваць пытаньне аб дапамозе мясцовым гурткам шляхам складаньня для іх праграм і інструктаваньня.

**В. Валахановіч.**

---

# Папераджальныя меры барацьбы са шкоднікамі гароду.

Барацьбу са шкоднікамі трэба пачынаць не тады, калі яны моцна расплодзіліся і непасрэдна пагражаюць ураджаю, а раней, з восені. І вось чаму. Існуе шэраг мерапрыемстваў, мэтаю якіх зьяўляецца папярэдзіць размнажэньне шкоднікаў, гэта значыць стварыць умовы, неспрыяючыя для іх разьвіцьця, а часта і для іх існаваньня. Гэтыя папераджальныя мерапрыемствы і тым каштоўны, што яны лепш тых, якія ўжываюцца ў час нападзеньня шкоднікаў. Каштоўны яны і тым, што могуць быць ужыты ў кожнай гаспадарцы.

Якія-ж гэта папераджальныя мерапрыемствы змаганьня са шкоднікамі гароду?

*Першае:* глыбокае ўзорваньне ці ўскопваньне гародаў позьняй восеньню. Гэтая мера садзейнічае пульхненьню глебы, што для гароду вельмі важна. Акрамя таго, яна дае магчымасьць дабрацца да тых шкоднікаў, якія зімуюць у зямлі. Ужываючы гэта мерапрыемства, мы зьнішчаем шкоднікаў. Напрыклад, капусная муха праводзіць зіму ў зямлі ў выглядзе карычняватых лялечак (коканаў). Гэтыя буравата-чырвоныя бочачкі велічынёю з пшанічнае зярно залягаюць цэлымі дзесяткамі каля качарыжак, галоўным чынам, паміж карэньняў. Капусная начніца (соўка) прыносіць вялікую шкоду капусьце, аб'ядаючы лісьце (робіць яго, як рэшата) і качан. Гэты шкоднік таксама зімуе ў зямлі ў выглядзе лялечак на глыбіні 1¹/₂—2-х вяршкоў. Лялечка гэта знаёма кожнаму селяніну, яна даўжынёю з ¹/₂ вяршка, цьвёрдая, на адным канцы пашыраная, а на другім—завостраная, буравата-чырвонага колеру.

Так вось, пры васеньнім узорваньні ці ўскопваньні гароду ўсе гэтыя лялечкі, вусені і нават дарослыя шасьціножкі вывaрачваюцца ў значнай колькасьці на паверхню зямлі, і тут замярзаюць ці паядаюцца птушкамі.

Тое ўскапваньне гароду, якое робіцца вясной, трэба скарыстаць дасканальна. Усіх шасьціножак, якія толькі сустракаюцца ў зямлі, усіх лялечак, вусеняў, коканаў—трэба выбіраць і зараз-жа зьнішчаць, раздаўліваць, паліць ці закапваць у зямлю на глыбіню ня менш аршына.

Другая папераджальная мера змаганьня са шкоднікамі, гэта—пасадка здаровых, моцных расьлін і пасеў чыстым насеньнем. Вядома, што чым мацней расьліна, тым лепш яна змагаецца супроць пашкоджаньняў шасьціножкамі і не баіцца няспрыяючага надвор'я.

Для таго, каб такія расьліны атрымаць, трэба:

1) ня высаджваць з году ў год адны і тыя расьліны на адным месцы, а абавязкова ўжываць севазварот;

2) высяваць добрае і чыстае насеньне;

3) высаджваць толькі моцныя расьліны.

Трэцяя папераджальная мера—увесь час назіраць за чыстатой як на гародзе, так і каля іх. Гэта значыць, што гароды трэба ачышчаць ад усялякага роду сьмяцьцёвых расьлін, у асаблівасьці ад сьвірэпкі, сьвярбігі, лебяды, пастушай сумкі і г. д. і рэштак ад ураджаю.

Справа ў тым, што ўсе сьмяцьцёвыя расьліны і рэшткі ўраджаю зьяўляюцца прытулкам для розных шкоднікаў на розных ступенях іх разьвіцьця, пачынаючы ад яйца аж да дарослай.

На ўсялякія сьмяцьцёвыя расьліны, розныя шасьціножкі увосень, кладуць свае яечкі, пры гэтым іх лісьце служыць першай спажывай вусеням, адкуль яны потым пяройдуць на гаспадарчыя расьліны.

Яйцы, напрыклад, капуснай траўніцы (попеліца) часта магчыма спаткаць на лісьці капусты, якое засталося на гародзе пасьля прыборкі, а таксама на лісьцях сьмяцьцёвых расьлін—сьвірэпкі, рэпы і інш. На гэтых качарыжках і сьмяцьцёвых расьлінах, а таксама на галінах, што валяюцца ў гародзе, застаюцца зімаваць лялечкі капуснай молі. Калі выцягнуць храпку (качарыжку) з зямлі, дык звычайна з грады разам з карэньнямі выцягваецца кавалак зямлі. У гэтай зямлі часта сустракаем коканы капуснай мухі, аб якой ужо казалі раней; у сярэдзіне-ж качарыжкі таксама можна знайсьці коканы гэтае мухі. Качарыжкі, пакінутыя зімаваць на гародзе, пры добрым надвор'і пачынаюць пушчаць у шматлікай колькасьці нізавыя почкі, якія яшчэ да марозаў бывае што добра разрастуцца. Часта на такіх почках можна сустрэць розных шкодных вусеняў, якія яшчэ падкармліваюцца, каб увесну з большай энэргіяй напасьці на нашы пасевы.

Тутака мы выклалі галоўнейшыя спосабы папярэджаньня разьвіцьця шкоднікаў гароду. Застанецца яшчэ толькі раз падкрэсьліць, што для посьпеху гэтых мерапрыемстваў неабходна выканаць адну ўмову: яны павінны быць зроблены па ўсіх гародах данай вёскі ці мясцовасьці. Толькі тады можна быць упэўненым, што атрымаем добрыя вынікі. Калі-ж адны гаспадары пойдуць па шляху нашых парад, а іх суседзі не, дык карысьці будзе вельмі мала, таму што шкоднікі будуць пераходзіць з заражоных гародаў на здаровыя. Вось чаму трэба праводзіць усе гэтыя меры ў шырока арганізаваным парадку.

Для гэтага лепш за ўсё арганізоўвацца ў таварыствы па барацьбе са шкоднікамі, бо супольна хутчэй магчыма здолець ворага, чымся паасобку.

У гэтым напрамку кожны селянін сустрэне з боку райагранома дапамогу, і ад яго ён даведаецца, дзе атрымаць атруты для змаганьня і як яе ўжываць.

Трэба памятаць, што папярэджваньне размнажэньня шкоднікаў—справа больш верная і лёгкая, чымся зьнішчаць іх у той час, калі яны заўладалі ўраджаем.

Асыстэнт **М. Пілько.**

Дасьледчая Станцыя
Аховы Расьлін НДІ.

# На замену сіняга каменю.

## (Вапна-серкавае злучэньне).

Магутны рост каляктывізацыі сельскай гаспадаркі ва ўмовах БССР, які мы наглядаем зараз, ставіць цэлы шэраг задач і перад навукаю і тэхнікаю, якія павінны быць блізка зьвязаны з гэтай галінай сацыялістычнага будаўніцтва.

Так, напрыклад, кожная новая каляктыўная гаспадарка ў першую чаргу будзе вымагаць правільнай арганізацыі тэрыторыі і працы, будзе вымагаць тэхнічнага і культурнага абслугоўваньня і г. д. Да тэхнічнага абслугоўваньня каляктыўнай і савецкай гаспадаркі трэба адносіць ня толькі забясьпечаньне яе трактарамі, машынамі, сартовым насеньнем і ўгнаеньнямі (яны ствараюць вялікі ўраджай), але і належнымі сродкамі барацьбы з грыбнымі хваробамі і шкоднікамі с.-г. культур, якія могуць зьнішчыць ураджай.

У даным артыкуле і будзеісьці гутарка аб адным прапарату для барацьбы з грыбнымі хваробамі, які для нашай с.-г. практыкі зьяўляецца, бадай, новым, хаця доследы з ім і вяліся раней. Іменна, я маю тут на ўвазе вапна-серкавае злучэньне, якое да гэтага часу амаль зусім ня мела практычнага прымяненьня ў барацьбе з грыбнымі хваробамі. Тут-жа коратка спынюся на высьвятленьні прычын гэтаму зьявішчу.



Апырскваньне яблыні вапна-серкавым злучэньнем. Справа—апырскнутае (здаровае), зьлева—без апырскваньня (пашкоджанае паршою).

Атрутнасьць вапны і серкі для грыбных організмаў упяршыню былі выкрыты (каля 1880 г.) у Амэрыцы. Прымянялася там (Каліфорнія) мешаніна вапны і серкі. Некалькі год раней тая-ж мешаніна вапны і серкі (разбаўленая вадою) пачала прымяняцца эўрапэйскімі садаводамі супроць грыбных хвароб на многіх садовых расьлінах. Але станоўчыя бакі гэтага фунгісіду ня былі ацэнены ў поўнай меры, а пасьля зьяўленьня бардоскай вадкасьці[1]) вапна-серкавая мешаніна была зусім пакінута. Бардоскую вадкасьць лічылі унівэрсальным прапаратам супроць грыбных хвароб. Супроць-жа энтомолёгічных шкоднікаў такім унівэрсальным прапаратам зьявіўся парыскі парашок (парыская зелень). Гэтыя два прапараты доўгі час і панавалі на рынку сродкаў барацьбы з грыбнымі і энтомолёгічнымі шкоднікамі, хаця і яны маюць адмоўныя

[1]) Сіні камень і неадгашаная вапна.

бакі. Гэта будзе больш зразумелым, калі мы каратка пералічым тыя вымаганьні, якія ставяцца цяпер перад кожным фунгісідам.

1. *Фунгісід павінен мець дробнаразьбітыя часьцінкі,* якія б доўгі час не асядалі на дно пасудзіны. Інакш нельга быць упэўненым, што фунгісід пры апырскваньні будзе нанесен на расьліны роўнамерна. У адваротным выпадку на расьліне будуць месцы слабай і празьмернай канцэнтрацыі фунгісіда. Празьмерная крэпасьць фунгісіда ў такіх месцах будзе выклікаць апалы лісьця, а слабая не заб'е грыбнога організму.



Агрэст. Здаровы зьлева (апырснуты), справа—пашкоджаны мучною расою (без апырскваньня).

2. *Вымагаецца пэўная атрутнасьць прапарату* (фунгісідныя якасьці). Слабая атрутнасьць фунгісіда не апраўдае яго прымяненьня.

3. *Прастата ў прыгатаваньні фунгісіда.* Зразумела, што неабходнасьць усякіх узважваньняў, прыгатаваньня двух раствораў і іх зьліваньня ў адну пасудзіну, або прыгатаваньне раствору ў час яго прымяненьня зьяўляецца адмоўным бокам для фунгісіда.

4. *Прапарат* (фунгісід) *павінен быць танным*, інакш яго прымяненьне не заўсёды можа быць рэнтабельным [1]).

5. *Фунгісід не павінен забіваць апаратуру,* што вельмі часта здараецца, калі фунгісід дае асадак, а не пераходзіць поўнасьцю ў раствор.

6. *Добра прыліпаць да лісьця расьліны* і ня змывацца дажджом.

Ацэньваючы з гэтага боку бардоскую вадкасьць і парыскі парашок, неабходна адзначыць, што гэтыя прапараты пры сваіх станоўчых баках (атрутнасьць, прыліпаемасьць да лісьця) маюць і адмоўныя. Так, прыгатаваньне бардоскай вадкасьці патрабуе даволі доўгіх папярэдніх маніпуляцый—растварэньне сіняга каменю, прыгатаваньне вапнавага малака і інш.

Фунгісід патрабуе хуткага прымяненьня пасьля прыгатаваньня, мае асадак, што падчас забівае апараты пры апырскваньні. Акрамя таго, ад бардоскай вадкасьці часта бывае і апальваньне лісьця. Прывяду тут адну ілюстрацыю. 23 ліпеня 1929 г., будучы разам з практыкантам т. Кантаровічам у Лошыцы, мы заўважылі амаль на ўсіх сартох тамату (памідораў) у рознай ступені скручваньне лісьця. Скручвалася лісьце ўверх па галоўнай жылцы ліста. Пры выпростваньні лісьцяных пласткоў яны ламаліся. Ніжняе лісьце часткаю падсыхала і было яшчэ больш ломкім. На ўсёй культуры выразна выступалі плямы ад апырскваньня яе бардоскаю вадкасьцю. І праўда, па словах т. Красачкіна, таматы былі апырснуты 1% растворам бардоскай вадкасьці, маючы на мэце плямістасьць лісьця таматаў. Septoria lyco-

[1]) Аплачваць выдаткі.

persici Speg, якая ў 1928 г., па маіх назіраньнях, была надзвычайна пашырана і мясцамі пагражала культуры таматаў.

Каб упэўніцца, што канцэнтрацыю бардоскай вадкасьці ў 1% трэба лічыць высокаю і што яна выклікае скручваньне лісьця, на другі дзень на гародзе пры Дасьледчай Станцыі Аховы Расьлін былі апырснуты таматы бардоскаю вадкасьцю ў канцэнтрацыі 0,5% і 1%. Канцэнтрацыя ў 1% дала такое скручваньне і падсыханьне лісьця таматаў.

Што належыць да парыскага парашку (зелені), дык недахопам яго трэба лічыць вялікую ўдзельную вагу (3,5) у параўнаньні, напрыклад, з мыш'якова-сьвінцоваю сольлю (1,005), якою зараз амэрыканцы амаль цалкам замянілі парыскі парашок.



Яблыкі ўвосень. Зьлева—два апырснутых вап.-серкавым злучэньнем, справа—пашкоджанае паршою (без апырскваньня).

Парыскі парашок хутка асядае на дне пасудзіны і пры апырскваньні можа выклікаць апальваньне лісьця ад няроўнамернага нанясеньня атруты. Мыш'якова-сьвінцовая соль (джыпсін) наадварот трымаецца ў вадзе без асяданьня, роўна распыльваецца і мае высокія атрутныя якасьці.

К таму-ж парыскі парашок і сіні камень (для бардоскай вадкасьці) зьяўляюцца імпортным (прывозным) таварам і даволі дарагім, што, з свайго боку, ставіць нас перад неабходнасьцю шукаць больш танных прапаратаў сваёй саюзнай вытворчасьці.

Наліччa такіх танных прапаратаў пры ўмове высокіх іх фунгісідных якасьцяй дапаможа іх масаваму прымяненьню і ў першую чаргу для высока інтэнсыўных галін сельскай гаспадаркі, як садоўніцтва і гародніцтва буйных (савецкіх ці каляктыўных) гаспадарак, дзе з арганізацыйнага боку прасьцей правесьці апырскваньне і іншыя мерапрыемствы па барацьбе са шкоднікамі і грыбнымі хваробамі с.-г. культур.

Аднак вернемся бліжэй да тэмы гэтага артыкулу.

З 1906 г. у мэтах замены бардоскай вадкасьці амэрыканцы зноў пачынаюць вывучаць вапну і серку. Цяпер больш увагі зьвяртаецца ня фунгісідным якасьцям серкі і вапны, а тым прадуктам, якія палучаюцца ў выніку акісьленьня серкі ў прысутнасьці вады. Працы ў гэтым кірунку мелі посьпех, і некаторыя ўжо хімічныя злучэньні вапны і серкі аказаліся прапаратамі з вялікаю фунгісіднаю актыўнасьцю[1]).

---

[1]) Так, напрыклад, пры адгашваньні вапны ў прысутнасьці серы і далейшым награваньні серка хімічна злучаецца з вапнаю прыблізна па такому раўнаньню: $3Ca(OH)_2 + 12S = 2CaS_5 + CaS_2O_3 + 3H_2O$.

Першае хімічнае злучэньне ёсьць пяцісеркавы кальцы ($CaS_5$) і зьяўляецца найбольш актыўным фунгісідам. Утвараецца ён пры лішках серкі, чаму старыя рэцэпты, па якіх бралі серку і вапну ў роўнай меры ці нават вапны ў два разы больш, не давалі такога выразнага выяўленьня фунгісіда. Пры малым разбаўленьні (1 : 8 — 1 : 9) гэты фунгісід можа прымяняцца для апырскваньня садоў рана вясною і ўвосень, а пры большым разбаўленьні для апырскваньня лісьця летам.

Асабліва шырока пачалі ўжываць гэты фунгісід амэрыканскія практыкі, дзе ён амаль зусім замяніў бардоскую вадкасьць.

Ня гледзячы на ўсе станоўчыя бакі гэтага фунгісіда (аб чым будзе гутарка далей), у нас у Саюзе і ў БССР ён амаль да гэтага часу ня меў пашырэньня. Прычынаю тут пэўна было тое, што для прыгатаваньня гэтага фунгісіда патрэбна высокай якасьці і даволі танная вапна. Адсутнасьць вапны прымушала практыкаў нават у бардоскай вадкасьці замяняць вапну кухеннаю сольлю, содаю і інш. Зараз-жа, калі ў нас так грунтоўна ставіцца пытаньне аб вапнаваньні глебы, то будзе танная і належнай якасьці вапна і для фунгісідных мэт.

З гэтай прычыны зусім на часе і нам заняцца пытаньнем „замены бардоскай вадкасьці" другім фунгісідам, дзе прывозны сіні камень замяняўся-б больш танным прэпаратам саюзнай вытворчасьці.

На падставе ўсяго сказанага ў бягучым 1929 годзе Фітопатолёгічным аддзелам Дасьледчай Станцыі Аховы Расьлін у праграму працы і было пастаўлена пытаньне „*вывучэньне вапна-серкавага злучэньня*" ў мэтах замены ім бардоскай вадкасьці (сіняга каменю).

Першыя назіраньні гэтага году прыводзяцца ў наступным нумары.

С. Тупяневіч.

(Дасьледч. Ст. Аховы Расьлін БН-ДІ).

---

# Аб кантрактацыі пасеваў.

Пастанова ЦК УсеКП(б) у галіне кантрактацыі дае нам зусім ясную ўстаноўку па асноўных момантах кантрактацыі, якія павінны ў далейшай працы атрымаць сваё поўнае ажыцьцяўленьне.

Мы тут спынімся толькі на двух асноўных момантах гэтай пастановы—на безавансавай і доўгатэрміновай кантрактацыі.

Безавансавы мэтад у асноўным мае сваёй мэтай паглыбіць вытворчы характар кантрактацыі. Скарачэньне грашовага авансу і замена яго вытворчым, ці іншымі словамі, арганізаванае забясьпечаньне пасеўшчыкаў-кантрактантаў сродкамі вытворчасьці і спажываньня, а таксама аграабслугоўваньнем—вось тыя моманты, якія ставіць перад сабой безавансавая кантрактацыя.

Практыка кантрактацыі 1926-27 году і 1927-28 на Беларусі служыць лепшым паказальнікам таго, наколькі трэба было шукаць новыя мэтады правядзеньня кантрактацыі.

Ні для каго не сакрэт, што грошы часта выдаваліся нізоўкай каму трэба і каму ня трэба.

Атрыманыя па кантрактацыі грошы пасеўшчыкі часта трацілі на мэты, якія абсалютна ня маюць ніякіх адносін да кантрактацыі. Дайшло да таго, што сялянства пачало глядзець на кантрактацыю, як на новы і лёгкі від крэдытаваньня. Больш таго, ня толькі сяляне, але і нізавыя т-вы, на вялікі жаль, такімі-ж вачыма глядзелі на гэта і лічылі сваю справу добра выкананай, калі ім удавалася поўнасьцю разьмеркаваць грошы.

Значны поступ у гэтай рабоце, хаця і не на ўсе 100 проц., адзначыўся з вясны гэтага году. Сродкі вытворчасьці пачынаюць больш заахвочваць селяніна, чым грашовыя авансы. За гэта гаворыць колькасьць разьмеркаванага насеньня, угнаеньня і машын у часе веснавой кантрактацыі гэтага году ў параўнаньні з кантрактацыяй мінулага году.

Гэтае павялічэньне, якое складае каля 100%, абавязана таму пераломy, які намеціўся ў кантрактацыі пасеваў.

Групавы мэтад кантрактацыі, які ў гэтым годзе выкананы на 68% супроць 3% мінулага году, таксама дапамагаў усьведамленьню пасяўшчыкамі значэньня вытворчай кантрактацыі.

Безавансавая кантрактацыя ў гэтым годзе фактычна не ўваходзіла ў плян правядзеньня кантрактацыі, але само жыцьцё штурхала на гэта мерапрыемства, і яна атрымала ажыцьцяўленьне на Віцебскай і Полацкай акругах па культуры лёну і ў Бабруйскай акрузе па іншых культурах. Усяго па ільну былі закантрактаваны па безавансавай кантрактацыі 1373 гектары. Праведзеную кантрактацыю аўса таксама можна лічыць безавансавай паколькі пасяўшчыкі замест грашовых авансаў атрымалі натурай патрэбны ім для засеву гатунковы авёс. Таксама і вытворчае крэдытаваньне ў гэтым годзе значна павялічылася.

Пры кантрактацыі жыта мы ў гэтым годзе маем яшчэ больш прыметны зрух у сэнсе замены грашовых авансаў вытворчымі і, згодна пастановы Эканомнарады, разьмер грашовага авансу па кантрактацыі жыта не павінен перавышаць 33 проц., а рэшта выпадае толькі на вытворчае крэдытаваньне.

Але побач з разгортваньнем безавансавай кантрактацыі трэба дабіцца, каб кантрактуючыя арганізацыі поўнасьцю і сваечасова забясьпечвалі пасеўшчыкаў сродкамі вытворчасьці і спажываньня, бо ненармальнасьці ў гэтым напрамку могуць нарушыць сэнс усёй працы па кантрактацыі.

Толькі пры двухбаковасьці дагавору, які прадугледжвае, з аднаго боку, заказ с.-г. каапэрацыі вытворцам с.-г. прадукцыі на вызначаную колькасьць і якасьць сырцу, а з другога боку, абавязвае кантрактуючыя арганізацыі забясьпечыць пасеўшчыкаў сродкамі вытворчасьці і спажываньня—безавансавая кантрактацыя можа ўвайсьці ў быт нашай сельскай гаспадаркі.

Пераходзячы да пытаньня доўгатэрміновай кантрактацыі належыць адзначыць наступнае.

Да гэтага часу мы праводзілі аднагадовую кантрактацыю, якая дзякуючы сваёй кароткатэрміновасьці ня можа служыць фактарам, які дапамагаў-бы рэканструкцыі ўсёй сялянскай гаспадаркі. Гэта становішча можа быць дасягнута толькі пры доўгатэрміновай кантрактацыі, калі дагавор заключаецца на некалькі год, у залежнасьці ад севазвароту гаспадаркі,—пры 7-міполцы на 7 гадоў, пры 6-цipольлі на 6 гадоў і г. д.

Вопыт правядзеньня доўгатэрміновай кантрактацыі ў гэтым годзе на Беларусі трэба лічыць, нажаль, няўдачным, мы фактычна мелі цэлы шэраг арганізацыйных недахопаў і пагэтаму пытаньне доўгатэрміновай кантрактацыі падлягае карэннаму перагляду.

З асноўных момантаў, на якіх павінна грунтавацца доўгатэрміновая кантрактацыя трэба адзначыць наступныя:

Доўгатэрміновая кантрактацыя можа праводзіцца ў тых гаспадарках, якія маюць цьвёрда ўстаноўлены шматпалёвы севазварот, зьяўляюцца гаспадарча і арганізацыйна больш моцнымі і дзе кантрактуемая культура можа высявацца цэлым масывам. Для культуры лёну, напрыклад, плошча пад лёнам павінна займаць масыў ня менш 30—40 гект.

Ясна, што ў першую чаргу павінны быць уцягнуты ў доўгатэрміновую кантрактацыю больш моцныя калгасы, вытворчыя аб'яднаньні, а пры адсутнічаньні такіх,—шляхам аб'яднаньня земляўпарадкаваных

пасёлкаў, але пры гэтым трэба строга ўлічваць разьмер плошчы кантрактуемай асноўнай культуры.

Выбар калгасаў і паказаных аб'яднаньняў павінен вызначацца таксама жаданьнем ісьці па шляху сацыяльнай і тэхнічнай рэарганізацыі сваёй гаспадаркі і гатоўнасьці прыняць удзел у працы сваімі сіламі і сродкамі. Разьмер уласных сродкаў вызначаецца ў залежнасьці ад моцнасьці рэарганізуемых гаспадарак.

Вельмі важным момантам у доўгатэрміновай кантрактацыі пасьля выбару аб'екту, зьяўляецца складаньне арганізацыйнага пляну, які служыць асновай далейшай працы па перабудове ўсёй гаспадаркі.

Для тых калгасаў, якія ўжо маюць свае арганізацыйныя пляны, застаецца толькі праверыць і ўзгадніць з той асноўнай задачай, якую мае на мэце доўгатэрміновая кантрактацыя.

Складаньне арганізацыйных плянаў у насялённых аб'яднаньнях зьяўляецца справай больш складанай, аграному ў гэтым выпадку трэба ўлічваць цэлы шэраг дадатковых фактараў, прычым трэба імкнуцца, каб гэтыя аб'яднаньні былі пабудованы каля існуючых ці намечаных да арганізацыі калгасаў.

Справа доўгатэрміновай кантрактацыі зьяўляецца фактычна новай і патрабуе максымальнай увагі ад усіх агранамічных і каапэрацыйных працаўнікоў. Асаблівы ўдзел у гэтай справе належыць аграномам, якія займаюць тут больш адказнае месца. Толькі пры канкрэтным наліччы аграномаў пры правядзеньні доўгатэрміновай кантрактацыі можна гаварыць аб ажыцьцяўленьні гэтай працы.

Уся мясцовая сялянская і партыйная грамадзкасьць павінна канцэнтраваць сваю ўвагу вакол доўгатэрміновай кантрактацыі, бо трэба памятаць, што яна дае магчымасьць перабудаваць сялянскую гаспадарку і больш поўна выкарыстаць арганамію, зрабіць яе непасрэдным, актыўным кіраўніком сельскай гаспадаркі.

Аграном **І. Левіт.**

---



Арлова-амэрыканскі рысак на беларускім конзаводзе.




# Каляктывізацыя і сьвінагадоўля ў Беларусі.

## Праз буйную аграмаджаную сьвінагадоўлю забясьпечым колькасны рост, палепшаньне якасьці і ўзьняцьце прыбытковасьці сьвінога стада.

Сельская гаспадарка Беларусі выдзяляецца сваёй пераважна разьвітай жывёлагадоўляй. Гэтаму садзейнічалі ня толькі натуральна-гістарычныя ўмовы, але і рыначныя цэны, якія праз увесь час заставаліся вышэй на прадукты жывёлаводзтва, чым на прадукты палявой гаспадаркі.

Разьвіцьцё сельскае гаспадаркі БССР у жывёлаводным кірунку пачалося яшчэ ў даваенны час і ішло шляхам пераважнага разьвіцьця больш прадукцыйных відаў жывёлы—малочнай і сьвінаводзтва. За час з 1883 г. па 1913 г. стада буйнай рагатай жывёлы ўзрасло на 52%, сьвіней на 56%, коняй на 29% і авечак на 30%. Такім чынам, на Беларусі супольна разьвівалася сьвінагадоўля і малочная жывёла. З пункту погляду гаспадарчай вартасьці гэты факт, бязумоўна, трэба лічыць надзвычайна каштоўным, таму што карова, як машына па вырабу малака, вельмі высока аплачвае затрачаны на яе корм; сьвіньня-ж, як вытворца мяса і сала, займае першае месца, параўнаўча з іншымі відамі хатняе жывёлы. Па даных амэрыканскай практыкі, вядома, што на 1 адзінку прыросту (напр. 1 кілё) сьвіньні добрага гатунку патрабуюць 4—5 адзінак сухой матэрыі корму (4—5 кілё), тады, калі адкармліваемы вол—10—12 адзінак, г. зн., што для вырабу сьвініны патрэбна ў 2,7 разы менш пажыўнай матэрыі, чым для вырабу ялавічыны.

Неабходна адзначыць, што па шчыльнасьці сьвінога пагалоўя БССР, у параўнаньні з іншымі раёнамі Савецкага Саюзу, стаіць на першым месцы і ідзе ўперадзе некаторых замежных дзяржаў. Напрыклад, у Нямеччыне, дзе высока-культурнае сьвінаводзтва, на 100 душ насельніцтва прыходзіцца 25,5 сьвіней, а ў Беларусі—42,6.

Ролю сьвінагадоўлі ў эканоміцы сельскае гаспадаркі Беларусі можна бачыць з наступнага: у частцы агульнага прыбытку краіны, які належаў да ўсёй жывёлагадоўлі, на прыбытак ад сьвінаводзтва прыпадала:

| Назва краіны | Г о д ы: | | |
|---|---|---|---|
| | 1900 г. | 1913 г. | 1923-24 г. |
| | У % % | | |
| 1. Беларусь . . . | 19,7 | 27,0 | 40,0 |
| 2. РСФСР (б. Расія) . | 11,3 | 16,4 | 20,0 |

Гэтыя лічбы зусім выразна сьведчаць аб тым, што ў разьвіцьці жывёлагадоўлі Беларусі ідзе паступовае павялічэньне ролі сьвінагадоўлі і што адносная вага сьвінаводзтва ў гаспадарцы нашай краіны ў два разы вышэй, чым у РСФСР.

За час сусьветнай і грамадзянскай вайны адбылося колькаснае зьніжэньне сьвінога пагалоўя. Але з 1923 г. пачынаецца хуткае аднаўленьне сьвінога стада, якое к 1925 году дасягае лічбаў 1916 г. Наступныя гады, да 1928 г., адзначаюцца паступовым ростам сьвінога пагалоўя. У 1928 г. мы маем скарачэньне сьвінога стадку на 1,7%, і гэтае зьніжэньне больш моцна адчуваецца ў 1929 годзе.



Сялянская сьвіньня з Палесься (узросту 5 гадоў).

Асноўныя прычыны, якія выклікалі ў апошнія гады скарачэньне сьвінагадоўлі, гэта *раздробненасьць і распыленасьць сялянскіх гаспадарак.* Стыхійнасьць у гаспадарчых умовах і залежнасьць ад выпадковасьцяй, якім падвяргаюцца дробныя гаспадаркі, кладзе свой адбітак і на галіну сьвінагадоўлі. Недарод кармоў, на які сьвінаводзтва вельмі чула рэагуе, моцна б'е па дробнай сялянскай сьвінагадоўлі і ён значна менш закранае буйную аграмаджаную сьвінагадоўлю. Але ў тых раёнах, дзе недахоп кармоў не даваў сябе адчуваць, тэмп росту сьвінагадоўлі, значна затрымаўся. Адгэтуль зразумела, *што калі дробнай сялянскай гаспадарцы было падсілу ўправіцца з задачай аднаўленьня сьвінога стадку Беларусі з давядзеньнем яго ў 1927 г. да 2.326.000 галоў, што перавышае даваенныя лічбы на 29%, дык далейшае ўзмацненьне і рэарганізацыя сьвінагадоўлі на падставах заатэхнічнай навукі і тэхнікі, ва ўмовах распыленасьці гэтай галіны і з нізкай тэхнікай яе вядзеньня, зусім немагчыма.* Правільную арганізацыю сьвінагадоўлі і яе колькасны рост магчыма забясьпечыць толькі *шляхам калякты візацыі і аграмаджаньня дробнага сялянскага сьвінаводзтва ў буйныя сьвіныя фабрыкі, як племяныя, гэтак і прамысловыя на бэкон.*

Рацыянальна пастаўленая сьвінагадоўля павінна быць так арганізавана, каб яна *затрачвала найменшую колькасьць рабочай сілы і абслугоўвалася цалкам машынамі.* Такая арганізацыя справы, напрыклад, у Даніі патрабуе на абслугоўваньне 400 галоў сьвіней толькі аднаго чалавека.

Буйная сьвінагадоўля стварае значнае патаненьне вытворчасьці сьвіной прадукцыі. Выкарыстаньне штучных пашаў для сьвіней у Амэрыцы, нават і пры адкорме, дае экономію 30% зярна. Акрамя гэтага, буйная сьвінагадоўля дае магчымасьць весьці правільны падлік корму, нагляд за парасятамі, дае запісы для адбору лепшых сьвіней і г. д. Усё гэта нельга ўжыць у дробнай сялянскай гаспадарцы.

Данія, якая мае, прыкладна, такую колькасьць сьвіней, як і Беларусь, у 1927 годзе экспартавала на замежны рынак 256.380 000 кілёграмаў бэкону (сьвініны) на суму каля 230 міл. руб. і 37.745 галоў жывых сьвіней на суму каля 2 мільён. руб.

У нас, у параўнаньні з Даніяй, лепшыя ўмовы для разьвіцьця сьвінагадоўлі. І вось чаму. Уся сьвінагадоўля Даніі трымаецца на кармох, якія ў большасьці купляюцца ў іншых дзяржавах, што, бязумоўна, павялічвае сабекошт сьвініны. У той час, як у Беларусі патрэбныя кармы для сьвіней магчыма атрымаць у самой гаспадарцы, прыстасаваўшы адпаведным чынам севазварот. Але дробнасьць і распыленасьць нашай сялянскай сьвінагадоўлі, а таксама нізкая якасьць сялянскай сьвіньні, не даюць той таварнай прадукцыі і тых соцень мільёнаў рублёў, якія



Кныр „Лев“ № 883, узрост 1½ гады. жывая вага 288 кілё (18 п.). Куплены Цэнтральн. Сьвінаводнай Станцыяй (пад Менскам) у „Дзяржплемкультуры“ РСФСР улетку 1928 г. за 600 руб.

дае дацкая сьвінагадоўля. Калі дацкая свіньня ва ўзросьце 6-7 месяцаў пры адкорме, дасягае 6 пудоў жывой вагі, дык наша непалепшаная сьвіньня дасягае гэтай-жа вагі ў 12—18 месяцаў.

Трэба адзначыць, што да гэтага часу пры арганізацыі каляктыўных гаспадарак аграмаджаньню сьвінагадоўлі ўдзяляецца недастатковая ўвага. Вельмі часта ў тых калгасах, дзе ўжо абагулена іншая жывёла, сьвінаводзтва застаецца ў індывідуальным карыстаньні і не атрымлівае той увагі, якую яму належала-б мець.

Ніжэй каротка адзначым некалькі галоўных момантаў, якія высоўваюць сьвінагадоўлю, як адну з карысьнейшых галін сельскае гаспадаркі:

1. Для арганізацыі сьвінагадоўлі і вядзеньня яе не патрабуецца значных затрат.
2. Укладзеныя сродкі ў сьвінагадоўлю хутка зварачваюцца ў гаспадарцы, асабліва пры гадоўлі палепшаных сьвіней.
3. Здольнасьць сьвіней да перапрацоўкі ў мяса і сала адкідаў сельскае гаспадаркі.
4. Высокая якасьць сьвінога мяса і сала як харчавога прадукту.
5. Трудаёмкасьць галіны сьвінагадоўлі, якая ва ўмовах аграрнай перанаселенасьці Беларусі, пры разьвіцьці сьвінагадоўлі да прамысловых разьмераў, дасьць магчымасьць скарыстоўваць лішнюю працоўную сілу ў сельскай гаспадарцы.
6. Неабмяжованы збыт прадуктаў сьвінаводзтва (бэконнага) на замежны рынак.

Усё гэта вымагае ад нас зьвярнуць асаблівую ўвагу на ўзмацненьне галіны сьвінаводзтва, ва ўжо існуючых калгасах, шляхам поўнага яе аграмаджваньня. Арганізацыя буйных сьвінаводных калгасаў, асабліва ў раёнах прамыслова-экспартнага сьвінаводзтва (Менска-Слуцкім і

Аршанскім) павінна знайсьці свой адбітак у практычнай працы зямельных органаў.

Толькі праз арганізацыю буйнае сьвінагадоўлі магчыма будзе ў бліжэйшы час:

а) *паставіць як сьлед нашу сьвінагадоўлю, г. зн. палепшыць пароду сьвіней, узьняць іх скорасьпеласьць і прыбытковасьць;*

б) *забясьпечыць бэконныя фабрыкі сыравінай без перабояў і ў належны час;*

в) *даць вялізную колькасьць сьвіной прадукцыі ня толькі для спажываньня ў сваёй краіне, але і для экспарту на замежны рынак, што дасьць новыя сотні мільёнаў рублёў у бюджэт дзяржавы;*

г) *узьняць дабрабыт бядняцка-серадняцкага сялянства і, нарэшце,*

д) *„дагнаць і перагнаць“ на працягу пяцігодзьдзя перадавыя капіталістычныя дзяржавы ў тэхнічнай і эканамічна-выгаднай арганізацыі галіны сьвінагадоўлі.*

Аграном-заатэхнік **Жыркевіч**.

---

# Больш увагі нашаму птушніцтву.

Павялічэньне прадуктаў птушніцтва ў сялянскай гаспадарцы ў сучасны момант павінна стаць першачарговай задачай.

Прадукты птушніцтва патрэбны ня толькі для сябе. Яны могуць



Узорны птушнік на птушкаводным заводзе Белсельтрэсту ў саўгасе „Сеньніца“, Менскай акругі.

пайсьці ў вялікай колькасьці на замежныя рынкі. У абмен на іх мы атрымаем сельска-гаспадарчыя машыны і прылады. Акрамя таго, праз тое, што палепшылася матар'яльнае становішча насельніцтва нашай краіны, паступова ўзрастае запатрабаваньне на спажыўныя прадукты харчаваньня, у першую чаргу на прадукты птушніцтва, як яйкі і мяса.

Усё гэта разам узятае застаўляе нас вельмі ўважліва аднесьціся да разьвіцьця птушніцтва. Умовы-ж БССР—налічча зернавых адкідаў, блізкасьць замежных рынкаў і выгодныя шляхі зносін—спрыяюць разьвіцьцю птушніцтва, як таварнай галіны сельскае гаспадаркі. Ніводная галіна сельскае гаспадаркі не патрабуе для свайго аднаўленьня і разьвіцьця такіх нязначных капітальных затрат і так хутка не зварочвае затрачаных сродкаў, як птушніцтва. З паасобных відаў дамашняй птушкі большую адносную вагу ў птушніцтве БССР маюць куры. Яны складаюць 90,2 проц. ад усяго птушнага пагалоўя (па 1927 г.). У якасных

адносінах птушніцтва стаіць нізка—вага курыцы 2—3 фун., гуся 8 фун., а яйцаноскасьць курыцы 58—63 яек у год. Акрамя таго, трэба адзначыць, што поруч з нізкім якасным становішчам птушніцтва, у нас вельмі нездавальняюча пастаўлена справа збыту прадуктаў птушніцтва.

Ня гледзячы на рост загатовак па яйкам за апошнія гады, ахоп таварнай яечнай прадукцыі загатоўчымі арганізацыямі нязначны. У 1927-28 г. ён складаў усяго толькі 37 проц. ад усёй таварнай прадукцыі па яйках. Рэшта прадукцыі—63 проц. прашла міма загатоўчых арганізацый—Дзяржгандлю і каапэрацыі, праз прыватны рынак.



Птушнік на птушкаводным заводзе Сеньніца з абсталяваньнем. Справа—контрольныя гнёзды, зьлева аўтаматычная кармушка.

Адносная вага сельска-гаспадарчай каапэрацыі ў загатоўчых каапэрацыях па яйках вельмі малая. У 1927-28 г. яна раўнялася 9,8 проц. ад агульнага загатоўчага пляну.

Да гэтага часу на птушніцтва глядзелі, як па „баб'ю справу“: не ўдзялялі дастатковай увагі яго разьвіцьцю.

Неабходна зараз-жа адкінуць гэты шкодны погляд і сканцэнтраваць у працы над птушкай максімум увагі. Птушка ў сялянстве павінна атрымаць такія-ж правы грамадзянства, як і іншая галіна сельскае гаспадаркі. У абарону птушкі павінна быць паднята ўся грамадзкасьць вёскі, увесь сялянскі актыў і, галоўнае, жанчыны-сялянкі бядняцка-серадняцкіх колаў вёскі, таму што птушніцтва больш падпарадкавана ў гаспадарцы жанчыне-сялянцы. У зьвязку з вышэй сказаным, патрэбна пашырыць мерапрыёмствы: па палепшаньню птушынага пагалоўя, палепшаньню якасьці яго і арганізацыі збыту прадуктаў птушніцтва. Іх трэба неадкладна правесьці ў працягу бліжэйшых гадоў. Праца па птушніцтву павінна быць сканцэнтравана ў першую чаргу ў калгасах і аб'яднаных у птушкаводную каапэрацыю сялянскіх гаспадарак. Калгасы павінны зьявіцца піонэрамі ў працы па птушніцтву. Птушкаводная справа ў калгасах павінна стаць узорнай для ўсіх сялянскіх гаспадарак. Калгасы павінны ўзяць на сябе задачу якаснага

паляпшэньня птушкаводзтва як у сябе, так і ваколічнага насельніцтва. Птушніцтва ў калгасах павінна быць пастаўлена, як прамысловае, і зьявіцца аднэй з таварных галін сельскае гаспадаркі.

Сучаснае становішча з птушкай у калгасах, дзе яна абагульваецца ў самую апошнюю чаргу, неабходна зжыць.

Па лініі калгасаў канцэнтруецца ўся праца па размнажэньню племяннога матар'ялу, атрыманага з буйных птушкаводных заводаў, арганізуемых у калгасах Белсельтрэсту і спэцыяльных птушкаводных гаспадарках Дзяржгандлю. Працу па птушніцтву ў калгасах неабходна спэцыялізаваць. Частка іх (калгасаў) будзе займацца племяной працай, другая—вывадам племянога і палепшанага маладняку праз арганізацыю вывадкі птушкі ў буйных інкубатарах, і вырашчваньнем маладняку.

Сельска-гаспадарчая каапэрацыя бярэ на сябе арганізацыю збыту прадуктаў птушніцтва праз каапэраваньне сялян у спэцыяльныя птушкаводныя т-вы. Першачарговай задачай птушкаводных т-ваў будзе загатоўка яек і птушкі, каб на базе арганізаванага збыту ўтварыць стымул да паляпшэньня птушкі.

Падвышэньне яйценоскасьці і мяснасьці будзе праводзіцца праз паляпшэньне ўмоў утрыманьня, догляду, харчаваньня птушкі, вучот яе прадукцыйнасьці, а таксама мэтызацыю (злучэньне) яе з гатунковай птушкай.

У сучасны момант птушка ў большасьці калгасаў і на індывідуальным сялянскім двары зьяўляецца бяспрытульнай. Яна ня мае ні спэцыяльна выдзеленага, ні належным чынам абсталёванага памяшканьня або кутка ў скоцкім хлеве. Узімку птушка зьмяшчаецца пад печкай, а ўлетку над падстрэшшу, альбо іншых мясцох, зусім не прыстасавых для разьвядзеньня птушкі. Неабходна ліквідаваць бяспрытульнасьць птушкі і гэтым самым павялічыць яе даходнасьць. Мерапрыемствы для гэтага простыя, якія не патрабуюць аніякіх затрат:

1) пабудова чыстых курыных гнёздаў;
2) збор яек з гнёздаў чыстымі рукамі;
3) буйны пясок на двары для птушкі;
4) харчаваньне курэй тоўчанай яечнай шкарлупай або гашанай вапнай;
5) скрынка з попелам для купаньня курэй.

*Больш складаныя*:

1) правільнае захоўваньне яек да здачы загатоўчым арганізацыям;
2) пабудова насецяй для курэй;
3) пабудова кармушак і паілак;
4) пабудова кантрольнага гнязда для вучоту прадукцыйнасьці.

*Грунтоўныя*:

1) выдзяленьне спэцыяльнага ўцяплёнага і асьветленага кутка для птушкі ў скоцкім хлеве альбо пабудова птушнікаў;
2) правільнае харчаваньне дарослай птушкі і маладняку;
3) пэрыодычная бракоўка дарослай птушкі і маладняку;
4) улік расходаў і даходаў па птушніцтву.

Правядзеньне вышэйпаказаных мерапрыемстваў значна павысіць прадукцыйнасьць птушкі і дасьць магчымасьць здаволіць патрэбы насельніцтва ў прадуктах харчаваньня—з аднаго боку і пашырыць наш экспарт—з другога.

Даходная птушка, даходныя куры дадуць нашым калгасам шмат лішніх трактароў.

Усе ў паход за прадукцыйную птушку.

**М. Канавальчык.**

# Патурбуйцеся аб уцяпленьні хлявоў.

Кожнаму прыходзілася наглядаць, як у дужа марозьлівы час узімку, жывёлу, якая ўтрымоўваецца ў халодным хляве, прабіраюць дрыжыкі. Відавочней усяго гэта бывае пасьля таго, як жывёла напоена. Дрыжыкі ёсьць ні што іншае, як мімавольны спосаб арганізму жывёлы, шляхам мэханічнай дзейнасьці (дрыжаньне) падтрымаць цяплыню свайго цела. Бо, як вядома, і ў холад і ў гарачыню, цяплыня цела ў здаровай, ня хворай жывёлы заўсёды аднолькавая. У кароў яна вагаецца між 38 і 39 градусамі па градусьніку Цэльсія. Крыху ніжэй (на паўградуса) бывае ў коняй і вышэй, прыблізна на паўградуса ў астатняй жывёлы. Толькі ў птушак цяплыня роўна 41-41,5 градуса.



Колгас „Прабуджэньне" Самахвалавіцкага раёну, Мен. акр.

Каб падтрымаць цяплыню на гэтым узроўні, жывёла ўлетку мімавольна пацее. Для выпароўваньня поту затрачваецца цяплыня, якая затрачваецца з цела жывёлы, і таму цяплыня цела не павышаецца. Узімку-ж цяплыня цела трымаецца на ўзроўні гэтых 38-39° (у кароў) тым, што маюць тоўстую шкуру з шэрсьцю. Але калі стане занадта холадна, дык арганізм, цела жывёлы саграваецца праз дрыжаньне.

На гэтае мімавольнае дрыжаньне патрэбна жывёле затраціць моц (энэргію). Моц-жа атрымоўваецца праз ужываньне кармоў. З гэтага яскрава відаць, што для захаваньня сябе ў здаровым стане ў вялікі мароз, у халодным хляве жывёле патрэбна зьядаць лішак кармоў. Досьледамі высьветлена, што ў халодным хляве карова за зіму зьядае пудоў на 15—20 больш кармоў. Калі-ж ня даць у гэты час досыць кармоў, дык жывёла худзее і можа нават захварэць. Маладняк прастудзіцца і страціць здольнасьць быць карысным у той справе, для чаго ён гадуецца. Лічыцца, што найлепш, калі цяплыня ў хляве бывае 12° для кароў, а для коняй 8 градусаў.

Гэткую цяплыню ў хляве можна захаваць толькі добра ўцяпліўшы хлеў, абаткнуўшы ўсе шчыліны ў сьценках, і зрабіўшы столь, хоць-бы з саломы, пакладзенай на жэрдкі. Рабіць столь патрэбна абавязкова. Справа ў тым, што часта досыць значныя халады бываюць у той час, калі ў хляве яшчэ не набралася шмат гною. Бо калі ўжо гною ў хляве атрымаецца шмат, то ад раскладаньня яго атрымліваецца некаторая цяплыня. Але ўвосень гной увесь вывозіцца пад азімае, таму ў пачатку зімы гною ў хляве няма. Бязумоўна, пры ўтрыманьні жывёлы ў бязгноевым хляве (калі гной кожны дзень выкідваецца з хлява), хлеў павінен быць дагледжаны як сьлед.

Шчыліны ў сьценах затыкаюцца пакулем, або саломай. Калі-ж вельмі ценкія сьцены, дык паміж бярвеньняў шчыліны, што можна, як

кажуць, праз іх хоць сабацы пралезьці, дык хлеў лепш агаціць знадворку саломай або кастрыцай. Мэтазгодней-жа ўсяго ўцяпляць хлявы торфам. Яго можна класьці і на столь, і на агачваньне знадворку сьцен. На столь, калі яна робіцца з жэрдак, кладзецца ўпоперак пруцьцё, потым насьцілаецца пласт саломы і на яго ўжо насыпаецца торф. Пры агачваньні торф знадворку, каб не разбурваўся, таксама замацоўваецца саломай, бульбоўнікам, альбо нават і плюшнікам, які можна накасіць у балоцістых мясцох там, куды да замярзаньня балота (дрыгвы, напрыклад) немагчыма даступіцца.



Дойка ў саўгасе.

Торфам карысна ўцяпляць з тым меркаваньнем, што калі пройдуць халады, дык ён пойдзе на подсьціл. Што торф павінен быць нарыхтованы яшчэ і асобна для подсьцілу ва ўвесь час утрыманьня ў хляве жывёлы, гэта само сабой зразумела. Дзьверы (вароты) у хляве патрэбна таксама аглядзець як сьлед. Іх неабходна абіць саломенымі матамі, або проста кулявую салому прымацаваць пруцьцямі.

У добра ўцяплёным хляве, у адлегу можа быць для жывёлы душна, што таксама няздорава. Паветра ў хляве павінна мяняцца. У праціўным выпадку, каровы, напрыклад, будуць даваць менш малака. У калгасах, саўгасах, сябраў малочна-жывёлаводных т-ваў абавязкова павінны быць зроблены спэцыяльныя выцяжныя каміны. Каміны надта карысны. Дзе ёсьць у хлеве каміны там жывёле здаравей, і хлеў служыць больш гадоў (ня прэюць сьцены).

Самым лепшым выцяжным комінам лічыцца комін, які ніжэй коратка апісваецца. Зрабіць яго лёгка. З цалёвых дошчак, шырынёю 44—53 сантымэтры (10—12 вярш.), зьбіваюць доўгую скрынку. У сярэдзіне скрынка перагароджваецца ценкімі дошкамі з кута ў кут на чатыры часткі. Уверсе і ўнізе скрынкі робяцца форткі (лехі). Для тых фортак, што будуць унізе, робяцца чатыры засланкі. Засланкі робяцца для таго, каб рэгуляваць як выхад паветра з хлява, так і ўваход яго знадворку ў хлеў. Калі, напрыклад, занадта моцна дзьме вецер, а ў хляве душна, дык заслонку адчыняюць толькі з працілеглага боку, а не з таго, адкуль вецер. З таго-ж боку, адкуль дзьме вецер, і дзьве бака-

выя заслонкі зачыняюць зусім. У ціхае надвор'е рэгулююць цяплыню адсоўваньнем заслонак на тую ці іншую адлегласьць. Калі душна, адсоўваюць засланкі больш, холадна—менш. Пад нізом коміна прымайстроўваецца яшчэ адбойная дошка, якая не дазваляе знадворнаму халоднаму паветру адразу падаць на жывёлу.

Трэба раіць комін такой даўжыні, каб ён быў над страхою 0,7-0,4 мэтр. (1-2 арш.), а ніжэй столі 36-50 сант. (½-¾ арш.).

Ніжэй столі комін апускаецца тады, калі хлеў халаднаваты. У добра-ж уцяплёным хляве комін робіцца так, што ніжэй столі апускаюцца толькі форткі. У апошнім выпадку ўсё папсаванае паветра лёгка зьмяніць на сьвежае.

Мы больш падрабязна застанавіліся на выцяжным коміне таму, што нават у калгасах і саўгасах часта ня робяць іх пры пабудове хлявоў. А калі яны і ёсьць, дык імі не карыстаюцца. Часта здаралася наглядаць коміны, зацягнутыя павуціньнем, або замест згубленых заслонак заткнутыя шматком саломы, які ніколі ня вымаецца. А між тым ніколі ня трэба трымаць цяплыню ў хляве да духаты (вышэй паказаных градусаў), бо гэта таксама шкодна для здароўя жывёлы.

Яшчэ адзначу адзін недахоп у сялянскіх хлявох, гэта пабудова хлявоў бяз вокан, які патрэбна зьнішчыць пры пабудове хлявоў у калектывах. Абавязкова трэба будаваць хлявы з вокнамі. Сьвятло неабходна жывёле, асабліва малочнай, таксама як і людзям. Калі надта душна ў хляве, вокнамі карыстаюцца для зьмены паветра (вэнтыляцыі). Мэтазгодна рабіць вокны больш лікам, але меншых памераў. Лічыцца дастатковым, калі на 20 квадратовых мэтраў падлогі, будзе 1 квадратовы мэтр. вакон. Робяцца вокны на вышыні 1,7 мэтр. (2½ арш.) ад падлогі.

Выкананьне гэтых простых мерапрыемстваў па ўтрыманьню жывёлы, абароніць яе ад захворваньня. Гаспадарцы будзе карысьць ад меншага скарыстаньня кармоў узімку і большай колькасьці атрыманага малака. Лічым, што варта для гэтых мэт патурбавацца.

**А. Тат-ва.**

---

# Паштовая скрынка.

**А. Я. Сороговец.**—Для выкананьня вашага заказу на кніжку „Рахункаводзтва для саўгасаў з тэхнічнымі прадпрыемствамі" ваш ліст пасланы ў „Аб'яднаны Бібліятэчны Калектар" Белдзяржвыдавецтва (Менск, Дом Працы).

**Пціцкае лясьніцтва**—тое самае і ваш заказ на „Даведнік па ўжываньню мэтрычных мерак у лясной гаспадарцы".

**Аграному М. Харытонавічу.**—Рукапіс складзенай вамі брашуры па калектывізацыі хутчэй дасылайце ў рэдакцыю. Пасьля прагляду і вырашэньня аб магчымасьці надрукаваньня, будзе паведамлена.

**Аграному К. Хаўстовічу.**—Аб надрукаваньні асобнай брашуркай досьлед з кармовай морквай. Перапрацуйце матар'ял, дадаўшы досьледы апошняга году і ўключыўшы досьледы па калгасах і саўгасах. Было-б добра, каб у брашуры выявілі рэнтабельнасьць увядзеньня пасеву морквы ў саўгасах і калгасах (якую плошчу да агульнай пасеўнай можна займаць ёю, як, каму і калі скармліваць, як захоўваць і якія лепш сеяць сарты). Адносна надрукаваньня тады будзе паведамлена.

**П. Глазунову**—Апісаньне калгасу „Новае жыцьцё" зьмяніць немагчыма, бо аб ім падрыхтаваны раней прысланы артыкул.

---




# Карысьць ад пульхненьня глебы.

Увосень я узараў кавалак сухадольнай сенажаці і пасеяў на ім жыта. Дзякуючы таму, што глеба была вельмі высілена (даўно ня угнойвалася),—жыта ўрадзіла ня надта добрае.

Пасьля жыта гэты вучастак я падзяліў на дзьве палавіны. На адной палавіне ў наступным годзе пасеяў бульбу (без угнаеньня), а другую пакінуў не араўшы. У 1924 годзе я зноў гэтыя кавалкі злучыў у адзін і пасеяў авёс.

І што-ж атрымалася? На кавалку з-пад бульбы, вырас авёс ледзь ня ў два аршыны ўвышкі, а на тым, што пуставаў у 1923 г. быў такі лядашчы, што як кажуць, касой не захопіш.

У 1925 годзе гэты кавалак зямлі быў пад чорным папарам, а ўвосень я пасеяў жыта. Ураджай атрымаўся таксама розны.

На кавалку, дзе была бульба ў 1923 г., жыта ўрадзіла надзвычайна добрае, як сьцяна. А на полі, што пуставала (у 1923 г.) ня гледзячы на тое, што папярэдні год быў чорны папар, жыта было куды горшае.

У гэтым выпадку, памайму разуменьню, розьніца ва ўраджаях атрымлівалася ад неаднолькавага пульхненьня глебы.

Увесну 1926 г. я рашыў праз досьледы ўжо больш дасканала выявіць, як пульхненьне глебы адбіваецца на падняцьці ўраджайнасьці.

Усяго было закладзена тры досьледы.

**Першы досьлед.** Глеба на дасьледчым вучастку была паздолістая. Севазварот за тры гады (да закладкі досьледу) быў наступны: бульба (з угнаеньнем 1800 пуд. на дзес.), потым пшаніца і жыта. Жыта было сярэдняе. Увосень гэты кавалак зямлі быў узараны на зяб. Вясной я гэты кавалак зямлі разьдзяліў на тры роўныя дзялянкі. Першую дзялянку ўзараў два разы, другую раз, а трэцюю зусім не араў, а ў тры сьляды прайшоў спрунжынованай бараной. Усе тры дзялянкі был засеяны аўсом.

Ураджай з гэтага дасьледчага вучастку я атрымаў наступны: з дзялянкі, якую два разы мяшаў, зьняў 4 пуды 32 фун., аўса (peралік на дзес. 57 пуд., 24 фун.; кожная дзялянка была па 200 кв. саж.) з дзялянкі, якую размяшаў 3 пуды 15 фун. (пералік на дзес 40 пуд. 20 фун.) і з дзялянкі, якую толькі пульхніў спрунжыновай бараной, 2 пуды 3 фун. (пералік на дзес. 24 пуд. 36 фун.).

**Другі досьлед.** Глеба на другім дасьледчым вучастку была сугліністая. За тры гады да закладкі досьледу, на ім быў чорны папар, потым жыта і, у трэці год авёс (са штучным угнаеньнем). Авёс быў добры—103 пуды з дзесяціны. Увосень я гэты кавалак зямлі ўзараў на зяб і ўгноіў, з разьліку 1200 пуд. на дзес. Вясной, падзяліўшы на 7 дзялянак, я на іх пасеяў бульбу. Бульба на ўсім вучастку сеялася аднагатунковая і на аднолькавай адлегласьці. Плошча кожнай дасьледчай дзялянкі была па 120 кв. саж.

З дзялянкі, узворанай раз, атрымана ў пераліку на дзесяціну 915 пуд. вельмі дробнай бульбы. Сярэдняе з дзялянак, узвораных два разы—1120 пуд., а сярэдняе з трох, узвораных тры разы—1.270 пуд. буйной бульбы.

**Трэці досьлед.** Апошні досьлед з пульхненьнем я заклаў у 1926 г. з ячменем.

Вясной 1925 г. я ўзараў дрэнную пры полі сенажаць і пасеяў віка-аўсяную мешанку. Віка была добрая—з 500 кв. саж. я накасіў каля 100 пуд. сена. Як толькі віку сабраў, глеба была ўзворана і так засталася на зіму. Вясной палову вучастку ўзараў адзін раз, а другую два разы і на абодвых пасеяў ячмень. Глеба на гэтым дасьледчым вучастку цяжкая, сугліністая. Ураджай зьняў наступны: дзе аралася вясною раз—70 пуд., а дзе два—83 пуды.

Павялічэньне ўраджаю ва ўсіх трох досьледах тлумачыцца ня чым іншым, а толькі належнай воранкай.

Селянін-дасьледчык **А. Фурса.**

В. 1-я Цішаўка,
Магілеўскай округі.

# Лепшая апрацоўка глебы—павялічэньне ўраджайнасьці.

Гаспадарка—галоўная аснова нашага дабрабыту. Але-ж гаспадаркаю трэба ўмець кіраваць, каб яна добра забясьпечвала нашы патрэбы і патрэбы прамысловасьці. Прамысловасьць, як вядома, вытварзе з сыравіны ўсё неабходнае ў нашым жыцьці. Таму трэба гаспадарку даглядаць так, каб яна давала як мага больш прадуктаў лепшай якасьці. Цяпер паўстае пытаньне, як гэта выканаць?

Па-першае, трэба вучыцца практычна правільна кіраваць гаспадаркай, ведаць як праводзіць працу і што з гэтай працы выйдзе. Тут узьнікае думка: дзе-ж вучыцца? На гэта я адкажу: дома ў сябе, на ўсякім кроку. Да ўсякай працы трэба адносіцца практычна, дасьледча і ўсё запісваць у вуме, а калі магчыма, дык і на паперы. Гэта будзе найлепшая школа. Да гэтага карысна дадаваць парады агранома. Без навукі і досьледу немагчыма падняць ураджайнасьці. Напрыклад, часта бачу на сялянскіх угноеных палёх мізэрныя ураджаі (забівае мятлюк, пырнік). Гэта сьведчыць, што гаспадар ня ўмее апрацоўваць глебы. Скардзіцца ён на глебу, што ня родзіць. Яна-ж часта ня родзіць ад несваячасовага засеву. У мяне быў выпадак, што я 8 год падтрымліваў ураджаі на аднэй вышыні без угнаеньня, толькі добрай апрацоўкай глебы.

Трэба гаспадару ведаць кожны сажань сваіх палёў, склад глебы, умець яе апрацоўваць і ўгнойваць. Трэ‘ сваячасова засяваць і засяваць тымі расьлінамі, якія на гэтай глебе добра растуць. Толькі такім шляхам і на Беларусі, пры дамамозе жывёлагадоўлі, зможам падняць ураджайнасьць. Калі украінец убачыў, як я апрацоўваў глебу, дык ён сказаў: каб у нас на Украіне так апрацоўвалі глебу як вы, дык у нас дзесяціна давала-б ня 150 п., а 300 пудоў збожжа. У нас, кажа ён, селянін як-небудзь пакорпае глебу ды і сее. Дык вось, калі на чорназеме патрэбна добрая апрацоўка глебы, дык у нас яна павінна быць як галоўнае мерапрыемства.

Селянін **А.**

(Капаткевіцкі раён,
Мазыршчына).

# ХРОНІКА

## Раён суцэльнай калектывізацыі на Беларусі.

На 25 кастрычніка па Клімавіцкаму раёну, Магілеўскай акругі, ахоплена калектывізацыяй звыш 53.000 *га* зямлі. Такім чынам—раён калектывізаваны на 50 проц. Пасьля дня „Калектывізацыі і ўраджаю“ тэмпы калектывізацыі ў раёне набылі такія надзвычайныя разьмеры, што праз кожны тыдзень калектывізуюцца новыя 15.000 *га* зямель.

Савініцкі, Пуцімельскі, Кісялёва-Будзянскі, Дубровіцкі, Гусарскі, Хатовіцкі і Судзілаўскі — калектывізаваны амаль на 100 проц. кожны.

У 1929-30 г. Клімавіцкі раён будзе калектывізаваны на ўсе 100 проц.

Іншыя раёны суцэльнай калектывізацыі на Беларусі значна адстаюць ад Клімавіцкага: так, Хоцімскі раён, Магілеўскай акругі, калектывізаваны на 31 проц., Сьмілавіцкі раён, Менскай акругі—на 25 проц., Лоеўскі раён, Гомельскай акругі і Юравіцкі раён, Мазырскае акругі—кожны калектывізаваны каля 20 проц.; процант калектывізацыі Рагачоўскага і Жлобінскага раёнаў, Бабруйскае акругі—яшчэ меншы.

## Агра-індустрыяльны камбінат-волат.

У 1929-30 г. на Беларусі мяркуецца пабудова вялізнага ўзорнага агра-індустрыяльнага камбінату. Гэты камбінат павінен мець жывёлагадоўчы ўхіл. У стадах камбінату будзе налічвацца каля 45—60 тысяч галоў малочнае жывёлы.

Малочная гаспадарка камбінату будзе даваць кожнагодна каля 300 тысяч пудоў таварнага масла. Гаспадарка будзе мэханізавана і электрыфіцыравана.

На пабудову агра-індустрыяльнага камбінату будзе затрачана каля 5 мільёнаў рублёў.

Для выбара найбольш спрыяючага для пабудовы гэтага камбінату раёна арганізавана камісія з прадстаўнікоў Белкалгассаюзу, Дзяржпляну, Наркамзему, Навукова-Дасьледчага Інстытуту і Вышэйшага Савету Народнай Гаспадаркі.

Камісія выехала ў Віцебскую і Бабруйскую акругі.

## Буйнейшыя калгасы на Беларусі.

Калі ў мінулым 1927-28 г. калгас з плошчай у 300—400 *га* зямлі лічыўся ў умовах БССР вельмі буйным, дык у гэтым годзе калгас у 1—1½ тысячы *га* зьяўляецца звычайным калгасам.

У адным толькі Клімавіцкім раёне зараз налічваецца звыш 30 буйных калгасаў, у кожным з якіх зямельная плошча перавышае 1.000 *га*. Самыя буйныя калгасы на Беларусі знаходзяцца ў Клімавіцкім і Хоцімскім раёнах, Магілеўскай акругі.

Найбуйнейшы калгас-волат—„Камунар Магілеўшчыны“—арганізован на тэрыторыі цэлага Савініцкага сельсавету. У яго склад уваходзіць звыш 10 вёсак на агульнай плошчы звыш 9.000 *га*. Калгас „Рабочы“ мае плошчу звыш 7.000 *га*. Ёсьць калгасы ў 5—4—3 тысячы *га*.

Буйнейшы калгас Хоцімскага раёну—мае плошчу ў 6.000 *га*. У яго склад таксама ўвайшоў цэлы сельсавет.

## Курсы для трактарыстых.

Народным Камісарыятам Асьветы ў кастрычніку месяцы арганізаваны ў Гомельскай, Аршанскай і Полацкай акрузе 6-цімесячныя курсы для трактарыстых. Усяго на курсах будзе каля 400 слухачоў. 210 месц на гэтых курсах прадстаўлена калгасьнікам.

## Новы парадак кантрактацыі.

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР 7-X—29 г. выдаў пастанову аб кантрактацыі прадуктаў сельскае гаспадаркі. Згодна гэтай пастановы кантрактацыя прадукцыі калгасаў вытвараецца шляхам дагавораў шматгадовай кантрактацыі, заключаемых вышэйшымі зьвеньнямі калгаснай сыстэмы са сваімі пярвічнымі калгаснымі аб'яднаньнямі, на падставе генэральных умоў калгасцэнтраў саюзных рэспублік з загатавіцельнымі організацыямі і ўстановамі сыстэмы сельска-гаспадарчага крэдыту.

## Калгасныя чырвоныя эшалёны з бульбай.

Да 1-га лістапада калгасамі Беларусі накіравана для рабочых Масквы і Ленінграду 4 чырвоных эшалёны з бульбай, замест намячаўшыхся дзьвюх эшалёнаў. Адсылкай у самым тэрміновым парадку звыш чым 150.000 пуд. бульбы ў чырвоныя сталіцы Савецкага Саюзу калгасьнікі Беларусі на практыцы даказалі рабочым Масквы і Ленінграду сваю брацкую, пралетарскую салідарнасьць.

## Белсельхозснаб.

Згодна пастановы Саўнаркома БССР ад 8-IX—29 г. у Менску арганізавана Усебеларускае зьмешанае Акцыянэрнае Таварыства па снабжэньню сельскай гаспадаркі сродкамі вытворчасьці—„Белсельхозснаб“.

Гэта—адзіная арганізацыя, якая загатаўляе і завозіць сродкі сельска-гаспадарчае вытворчасьці ў БССР, а снабжэньне калгасаў, каапэраванага і некаапэраванага насельніцтва праводзіць праз вытворчую сельска-гаспадарчую каапэрацыю па генэральных дагаварох з адпаведнымі каапэрацыйнымі цэнтрамі.

Акцыянэрамі „Белсельхозснаба“ зьяўляюцца цэнтральныя саюзы сельска-гаспадарчае каапэрацыі БССР: Белкалгассаюз, Паляводсаюз, Малочна-Жывёлагадоўчы Саюз і Садова-Городны Саюз.

## Рабочыя брыгады на хлебазагатоўкі ў калгасах.

На 20 кастрычніка, па няпоўных зьвестках, калгасамі Беларусі здадзена каля 15.000 цэнтнэраў таварных лішкаў хлеба. Да дня сьвята Кастрычнікавай Рэвалюцыі калгасы павінны здаць 44.000 цэнтнэраў таварнага збожжа. У мэтах палепшаньня хода хлебазагатовак па калгасах і 100 проц. іх выкананьня да вызначанага тэрміну — Цэнтральным Саветам Прафэсыянальных Саюзаў Беларусі, па ўзгадненьні з Белкалгассаюзам, вылучаны рабочыя брыгады ў кожнай акрузе, якія разьехаліся па тых раёнах, дзе найбольш слаба абстаіць справа з хлебазагатоўкамі.

## Аб трактарных калёнах у БССР.

На 1929-30 г. у калгасах БССР мяркуецца зарганізаваць 21 трактарную калёну кожную па 10 трактараў, якія будуць абслугоўваць ня толькі патрэбы калгасаў, але па асобных дагаворах абслугоўваць акаляючае насельніцтва, яшчэ ня ўцягнутае ў калектывізацыю.

Па асобных акругах калёны разьмяркованы будуць наступным парадкам:

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Менскай акр. | 3 кал. па | 10 тракт. | | Мазырскай акр. | 2 кал. па | 10 тракт. |
| Бабруйскай „ | 4 „ „ | 10 „ | | Магілеўскай „ | 5 „ „ | 10 „ |
| Віцебскай „ | 2 „ „ | 10 „ | | Аршанскай „ | 2 „ „ | 10 „ |
| Гомельскай „ | 3 „ „ | 10 „ | | Полацкай „ | 1 „ „ | 5 „ |

У першую чаргу будзе арганізавана 2 калёны ў Клімавіцкім раёне Магілеўскай акр., дзе ў Пуцімльскім с.-с. каляктывізацыяй ахоплена да 70 проц. сялянскіх гаспадарак. Там-жа ўжо мак цца буйныя калгасы, як „Ленінскі Шлях“ на 2.000 *га*, „Камунар“—4.000 *га* і інш. Для абслугоўваньня рамонтам усіх маючыхся трактараў і наогул с.-г. машын у гэтым раёне будзе зарганізавана адна майстэрня павышанага тыпу.

А. А.

---

## Вынікі правядзеньня „Дню ўраджаю і каляктывізацыі“ ў Менскай акрузе.

*(Па інфармацыі ўдзельнікаў—зямельных працаўнікоў цэнтр. установ г. Менску).*

**У Лагойскім раёне** ўся ўвага была сканцэнтравана на раённай выстаўцы. Пры чым, ня гледзячы на гэта, выстаўка праходзіла вяла. Сялян з вёсак, акрамя ўдзельнікаў з экспанатамі, было мала. Працаўнікі цэнтру, якія былі ў гэтым раёне, лічаць, што раённыя выстаўкі аджылі свой час. Іх патрэбна надалей арганізоўваць у калгасах і саўгасах, Раён яшчэ занадта адсталы ў тэхнічных адносінах. Таму і прышлося ў добра абсталяваным аддзеле выстаўкі па машынізацыі выстаўляць і сохі, валапушы і г. д., як прыклад дрэнных прылад, што патрэбна хутчэй зьнішчыць.

Каляктывізацыя ў раёне разгорнута слаба. Яна вытвараецца за кошт абрэзаных кулацкіх зямель і зямель запаснага фонду. Ідуць у каляктыў найбольш адзіночкі. У „Дзень сьвята ўраджаю і каляктывізацыі“ арганізаваны ў раёне 3 калгасы на плошчы 659 *га*. Адзін з іх арганізаваны ў в. Пархава з 14 гаспадарак.

Збору сродкаў на арганізацыю трактарнай калёны ня было, экспанатаў для Ўсебеларускай выстаўкі не адбіралі.

**У Смалявіцкім раёне** маецца ўжо 16 калгасаў. У Слабацкім с.-с. гэтага раёну пад калгасамі занята 12 проц. зямельнай плошчы. Намечана да арганізацыі ў гэтым-жа с.-с. аднаго буйнага калгасу з 3 вёсак на плошчы ў 1.500—1.800 гектараў. Выстаўка ў раёне існавала 2 дні. Па ліку экспанатаў яна была меншай за папярэдні год, але затое яна была з удзелам выключна бядняцкай і серадняцкай часткі і ўдзельнікаў абагуленага сэктару, кулакоў не дапусьцілі на выстаўку. На жаль, прыходзіцца адзначыць, што з саўгасаў былі прадстаўлены толькі 2, „Шыпяны“ і імя Леніна, а з 16 калгасаў—4. Калгасы гэтыя больш старыя і іх аддзелы былі абсталяваны добра. Добра падрыхтаваўся і даў шэраг цікавых дыяграм эканамічнага, культурнага, бытавога і інш. зьместу калгас „Добрая Воля“ і за ім „Новае Жыцьцё“. Даволі цікавыя былі экспанаты сялян-дасьледчыкаў з вынікамі розных культур як па лепшай апрацоўцы глебы, розным угнаеньнем і г. д., а таксама экспанаты Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя Леніна. Добра абсталяваныя аддзелы розных Дасьледчых Станцый Інстытуту Належныя тлумачэньні абслугоўваючых гэтыя аддзелы працаўнікоў Інстытуту ўвесь час прыцягвалі да сябе наведвальнікаў, на якіх усе аддзелы стварылі добрае ўражаньне. За 2 дні выстаўку наведалі каля 2.000 чалавек.

Недахопы выстаўкі—гэта праца экспэртнай (ацэначнай) камісіі. У яе склад ня быў уведзены ні адзін аграном, ні мясцовы (мо‘ з прычыны, што быў заняты запісам і расстаноўкай экспанатаў, а потым тлумачэньнем наведвальнікам), ні тыя што прыяжджалі з Менску.

У вёсцы Сялібне, у якой 115 гаспадарак, большасьць бядняцкіх, была калісьці праведзена праца па арганізацыі каляктыву. Але з 10 гаспадарак, якія вайшлі ў калгас, у гэты час было толькі каля 5, ды і тыя няўстойлівыя. Гэта тлумачыцца тым, што з боку мясцовых раённых працаўнікоў ня было дапамогі. Да гэтага часу ня далі туды каморніка, таму ня было выдзелена зямлі, што і паслужыла прычынай распаду калгасу. Мае ўплыў і незнаёмства з організацыяй калгасу, яго пабудовы і г. д. Тут трэба добра прапрацаваць, тады можна быць упэўненым, што калгас створыцца, бо падстава для гэтага ёсьць.

Для таго, каб пазнаёміць сялянства з калгасам, каб на прыкладзе яны ўбачылі, як там жывуць і працуюць, сходам вызначана камісія для арганізацыі эскурсіі на бліжэйшы калгас. Збор на арганізацыю трактарнай калёны не праводзіўся, але пытаньне ўзьнята і выкліканы вёскі на спаборніцтва па збору сродкаў на арганізацыю калёны.

**Сьмілавіцкі раён.** На выстаўцы, па вестках камандыраваных, прымалі ўдзел пераважна калгасы і саўгасы, якія зьявіліся з 3 трактарамі і іншымі машынамі і прыладамі, а потым сяляне-дасьледчыкі. Ні на выстаўцы, ні наогул пры правядзеньні сьвята „Дзень ураджаю і каляктывізацыі" нічога супроцьрэлігійнага не адчувалася. Частка камандыраваных працаўнікоў з цэнтру ня былі скарыстаны як сьлед. Выстаўка адчынена позна. Збор на трактарную калёну не праведзены. Там-жа, куды выехалі шэфарганізацыі і аграномы, была відавочная работа. Масавая праца праведзена арганізацыяй газэты „Орка" (польскай) у калгасе „Камінтэрн", дзе ўдзельнічаў таксама і вандроўны польскі тэатр і дадзены парады па наладжваньню працы ў калгасе.

**Пухавіцкі раён.** У раёне было арганізавана 3 выстаўкі: у Пухавічах, Шацку і Тальцы. Наведвальнікаў на Пухавіцкай выстаўцы было ня менш 4.000. Удзельнікамі з экспанатамі былі пераважна саўгасы і калгасы. Заўважаны нядбайныя адносіны да абслугоўваньня выстаўкі з боку саўгасаў, акрамя Вялень. Былі такія саўгасы, што прывезьлі экспанаты, кінулі і ні ўпарадкаваць, ні паставіць як сьлед, ні пакінуць каго-небудзь для тлумачэньня—яны не патурбаваліся. Добрае ўражаньне зроблена ў супроцьрэлігійным напрамку Мар'іна-Горскім садова-гароднім тэхнікумам, наладжаным карнавалам. Выстаўка НДІ, як і ў іншых раёнах, прыкоўвала да сябе ўвагу наведвальнікаў і абсталяваньнем і тлумачэньнямі. На другі дзень выстаўку наведвалі вучні вакольных школ. Экспанатаў, якія-б былі каштоўны для ўсебеларускай выстаўкі, ня было. Камуна „Зорка" ў дыяграмах азначыла дасягненьні за час існаваньня гаспадаркі (уздым ураджайнасьці, павялічэньне ліку жывёлы і г. д.), але выпукленьня, што зроблена па аграмінімуму ў раёне, на выстаўцы ня было выяўлена. Слаба была прадстаўлена і жывёлагадоўля. Арганізавана экскурсія для агляду калгасаў і праведзен збор на трактарную калёну.

Практычна па калгаснаму будаўніцтву—у вёсцы Сянча запісаліся ў калгас 34 гаспадаркі, Тут пашла ў калгас не бядняцкая, а серадняцкая частка вёскі. Мясцовым работнікам трэба мець на ўвазе, што там патрэбна яшчэ дадатковая праца, інакш калгас ня будзе створаны. У „Дзень ураджаю і каляктывізацыі" вучнямі Мар'іна-Горскага тэхнікуму зроблена дапамога маладому яшчэ калгасу ў вёсцы Лядцо, узворана 4 *га* коньмі тэхнікуму. Батракамі і пастухамі Мар'іна-Горскага сельрабачкому з сялян пасёлкаў Пасекі арганізаваны чырвоны абоз, які здаў 800 пуд. хлеба.

Адзначаецца ўдзельнікамі,—што ў гэтым раёне, як і ў іншых, адчуваецца недахоп аграномаў.

**У Койданаўскім раёне** выстаўка была невялікая і асаблівага ўражаньня не зрабіла. А вось куставыя выстаўкі, хоць таксама невялікія—больш сябе апраўдалі. Праведзены яны 13 кастрычніка, з мэтай стварыць 14-га чырвоныя абозы. Выстаўкі гэтыя былі ў 5 мясцох. Праз выстаўкі па ўсяму раёну прайшло каля 8.000 чалавек. Прэміі выданы ўдзельнікам на суму каля 200 руб.

Калгас „Акцябр" удзелу ў выстаўцы ня прымаў. Прычына невядома, але бадай ці не рэлігійнае сьвята зьявілася перашкодай для ўдзелу. Гэта раённай арганізацыяй вырашана высьветліць.

У „Дзень ураджаю і каляктывізацыі" пры ўдзеле Пагранатраду і КП(б)Б арганізаваны калгас з 12 гаспадарак на плошчы 333 *га.* У сьвята „Дзень ураджаю і каляктывізацыі" ў нова арганізаваным калгасе працавала калёна з 4 трактараў. Арганізаваны калгас у в. Дзягіна з 10 гаспадарак. Быў арганізаваны чырвоны абоз; працавала кінoперасоўка.

У пасёлку „Чырвоны Куток", **Чэрвенскага раёну** (30 гаспадарак) сход працягваўся больш 8 гадзін. Агульнае ўражаньне гаварыла аб тым, што тут была слаба пастаўлена праца па растлумачэньню: што такое калгас, мэта яго арганізацыі і г. д., а здаецца, што тут можна наладзіць працу па ўцягненьню бядняцкага сялянства ў калгасы, бо тут недалёка знаходзіцца дрэваапрацоўчы завод, дзе ёсьць пралетарскія кадры. Арганізавана была экскурсія для наведваньня калгасу.

**У Грэскім раёне** каляктывізацыя яшчэ не набыла належнага тэмпу. Прычын для гэтага шмат. Адна з іх—гэта перашкоды з боку кулацкай часткі вёсак. Былі выпадкі, па вестках працаўнікоў раёну, калі кулакі, з мэтай агітацыі супроць калгасаў, апраналіся ў дрэннае адзеньне і жабракамі вандравалі па вёсках. Сваё жабрацтва тлумачылі тым, што да жабрацтва іх давёў калгас, куды яны ўваходзілі. Аднаго з такіх шкоднікаў, члена ўжо існуючага калгасу, на працягу двух дзён „Дню ўраджаю і каляктывізацыі" судзілі за растрату калгасных сродкаў. Гэта ён учыніў будучы старшынёю калгасу. А такія зьявішчы, як растрата сродкаў кіраўніком, даюць глебу для шэрагу плётак. Кулаку, у такім разе, ёсьць чым падмацаваць сваю агітацыю супроць калгасу і зрабіць уплыў на бядняцкую частку вёскі. Далей, неўрэгуляванасьць пытаньня ў адносінах да тых членаў, якія ўвайшлі ў калгас, але працуюць дзе-небудзь па-за калгасам, напрыклад, член калгасу працуе ў каапэратыве прадаўцом. Але зрух ёсьць, бядняцка-серадняцкая

частка вёскі зацікаўлена калгасным будаўніцтвам. Наглядае яна толькі, як замацуюцца арганізаваныя калгасы, як наладзіцца ў іх праца і жыцьцё, каб потым увайсьці ўжо з пэўнасьцю, што калгас будзе моцны. Ува ўсе віды с.-г. каапэрацыі ўцягнута 4.231 чалавек у 33 паасобныя аб'яднаньні. Зараз вядзецца праца па ўцягненьні рэшткі 3.000 чалавек. Па лініі сацыялістычнага сэктару і на дапамогу бядняцкай і серадняцкай часткі вёскі скарыстана крэдытаваньне 170.000 руб.

Да 1928 г. у раёне было зямляўпарадкавана 8.633 *га*, з якіх 25 проц. хутароў. У 1929 г. зямляўпарадкавана 6.292 *га*, з іх 27 проц. калгасы. У далейшым—падрыхтавана глеба да арганізацыі 7 каляктываў. У „Дзень ураджаю і каляктывізацыі“ аб'яднаны ў адзін два дробныя калгасы: „Лекерта“ з 141 *га* і „Праўда“ 57 *га*, узбуйненаму калгасу прыўлашчана імя „Лекерта“.

На ўрачыстым пасяджэньні раёну пастаноўлена арганізаваць у раёне трактарную калёну. Пачын для гэтага зроблен на дэлегацкім сходзе жанчын, якія да часу ўрачыстага паседжаньня ўнесьлі першы ўзнос у суме 15 руб. Тут-жа на ўрачыстым паседжаньні амаль усе працаўнікі раёну вызначылі палову месячнае пэнсіі на трактарную калёну. Усяго разам з асыгнаваньнямі ад розных раённых арганізацыі на працягу якой-небудзь поўгадзіны **сабрана 1.456 руб.** Рабочыя саўгасу вырашылі дадаць да гэтай сумы свой аднадзённы заробак. Чарга за сялянствам прыняць удзел у пабудове калёны.

Удзел у выстаўцы прымалі: калгас „Чырвоны Маяк“, саўгас „Старыца“, 2 мэліарацыйныя таварыствы (а ў раёне іх 6), школа і індывідуальныя сяляне. У „Дзень сьвята ўраджаю і каляктывізацыі“ прыбыў чырвоны абоз з хлебам.

Усяго ў выстаўцы прымалі ўдзел са сваімі экспанатамі 185 гаспадарак. Экспанаты былі ў пераважзе паляводныя. Прэмій выдана на 200 руб. натурай: аўса на 70 р., 6 шт. сьвіней, ячменю—20 п., канюшыны насеньня—3 пуд., бібліятэчкі, дыплёмы і 500 п. вапны для ўгнаеньня з заводу свайго с.-г. таварыства.

**У Халопіцкім раёне** ўрачыстага паседжаньня ня было, а праведзены агульны сход, дзе і былі зроблены даклады аб 5-годцы. Карнавал, які быў арганізаваны супроць яўрэйскага рэлігійнага сьвята, не стварыў належнага ўражаньня. Пасьпешна, амаль галопам, увечары прабяжаў карнавал праз мястэчка.

У раёне ёсьць два яўрэйскіх калгасы. У той час, калі адзін з іх прымаў удзел у правядзеньні сьвята, дык другі ня прыслаў нават свайго прадстаўніка на выстаўку, за што яму вынесена вымова. У выстаўцы прымалі ўдзел саўгас, рыбная гаспадарка і добра абсталяваны аддзел ільнаводзтва.

**У Самахвалавіцкім раёне** яшчэ ня ўзьняты рух па калгаснаму будаўніцтву, асабліва навакол вёскі Караліна. Нават папярэджвалі камандыраваных, накіроўваючы туды для правядзеньня сьвята, што там варожа спатыкаюць працаўнікоў, якія вядуць размовы аб калгасах. Праўда, на сходзе былі пытаньні, асабліва з боку жанчын, якія сьведчылі толькі аб тым, што аб калгасах там разумеюць па-свойму, няправільна Разбор і тлумачэньне ўстава зрабіў пэўны перагіб у думках сялянства ў напрамку прыхільнасьці да калгасаў.

**У Копыльскім раёне** ў „Дзень ураджаю і каляктывізацыі“ атрыманы найбольшы посьпех. Там арганізавана 8 калгасаў на плошчы 3.250 *га*, з якіх у вёсцы „Вялікая Раёўка“ арганізавалася камуна. Далей—узбуйнена 2 калгасы—„Пружаны“ і „Чырвоны Ральнік“ на плошчы 585 *га*. Усяго-ж у раёне маецца 27 калгасаў на плошчы 7.774 *га*. У фонд арганізацыі трактарнай калёны сабрана 128 пуд. жыта і збор працягваецца далей. На выстаўцы прымалі ўдзел 10 калгасаў.

**У Астрашыцка-Гарадзецкім раёне** ўрачыстае паседжаньне праведзена з удзелам прадстаўніка ЦВК т. Баля, якім зроблен даклад аб 5-годцы. Увечары 13-га зроблены працаўнікамі з цэнтру і шэфамі выезды па с-с.

У вёсках Губічы і Раўбічы запісалася ў калгас 6 гаспадарак. Наогул-жа—каляктывізацыя ў раёне разгорнута слаба. Быў арганізованы чырвоны абоз. Па ўсіх пытаньнях былі арганізаваны сталы даведак (калгасным, каапэрацыйным, зямельным і г. д.). Была пастаноўка п'есы артыстымі з Менску. Выстаўка працягвалася адзін дзень. Прайшла яна лепш як у мінулым годзе. Удзельнічалі ў в-цы калгасы, мэліарацыйныя, малочныя і тарфяныя т-вы, а саўгас Вішнёўка зусім не зьявіўся.

На выстаўцы выдзяляліся экспанаты камуны „Чырвоная Зорка“ (сьвіньні і гароднiна). Наведалі выстаўку каля 1.000 чалавек. Выдана прэміі натурай на суму каля 300 руб. і дыплёмы. Уражаньне ад выстаўкі добрае.

С. Х.

---

Адк. рэд. П. Рачыцкі. Рэдактар—**Рэдкалегія.**

По гэтаму лісту падпіску сабраў..........................................

...........................................................................................

Адрас зборшчыка........................................................................

> Сабраўшы падпіску, гэты ліст і грошы перасылайце ў рэдакцыю.

# ПАДПІСНЫ ЛІСТ

## для збору падпіскі на часопіс „ШЛЯХІ КАЛЯКТЫВІЗАЦЫІ“

МЕНСК,

Месца для маркі

Савецкая, 71.

У РЭДАКЦЫЮ

**„ШЛЯХІ КАЛЯКТЫВІЗАЦЫІ“**

ПРАВЕРЦЕ, ЦІ ЁСЬЦЬ ЧАСОПІС „ШЛЯХІ КАЛЯКТЫВІЗАЦЫІ“:

У СУСЕДНІМ КАЛГАСЕ, У КРЭДЫТНЫМ ТАВАРЫСТВЕ, У СЕЛЬСАВЕЦЕ, У РАЙКОМЕ КП(б)Б І ЛКСМ, У РВК, У ХАЦЕ-ЧЫТАЛЬНІ, НАРДОМЕ, БІБЛІЯТЭЦЫ, ШКОЛЕ, КАМІТЭЦЕ ЎЗАЕМАДАПАМОГІ, У КЛЮБЕ, ЧЫРВОНЫМ, КААПЭРАЦЫЙНЫМ І СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧЫМ КУТКОХ І ГУРТКОХ.

КАЛІ-Ж ЧАСОПІСУ ТАМ НЯМА, ТО ПРЫМІ АД ІХ ПАДПІСКУ.

**Адзіны ў БССР масавы калгасны часопіс „ШЛЯХІ КАЛЯКТЫВІЗАЦЫІ“**

ВЫСЫЛАЕЦЦА Ў ПРАЦЯГУ ГОДА **ДАРЭМНА** ТАМУ, ХТО ЗЬБЯРЭ ЗРАЗУ ШЭСЬЦЬ ГАДАВЫХ ЦІ 12 ПОЎГАДАВЫХ ПАДПІСЧЫКАЎ.

УЦЯГВАЙЦЕ НОВЫХ ЧЫТАЧОЎ!.. ЗЬБІРАЙЦЕ ПАДПІСКУ ПА ГЭТЫМ ПАДПІСНЫМ ЛІСТУ!..

Л І Н І Я А Д Р Э З У

**ПАВЯЛІЧВАЙЦЕ КОЛЬКАСЬЦЬ ПАДПІШЧЫКАЎ!..**

## Сьпіс сабраных падпішчыкаў на часопіс „ШЛЯХІ КАЛЯКТЫВІЗАЦЫІ“

| №№ | Паштовае аддзяленьне | Акруга | Раён | Сельсавет | Вёска | Імя і прозьвішча падпішчыкаў | Колькі экз. | На колькі мес. | З якога месяцу | Сума Р. | Сума К. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

„........“ .................................19..........г.

Усяго атрымана па гэтаму лісту . . . | ........ | ........

*Подпіс*

Высылаецца пераводам па пошце. . . | ........ | ........

УВАГА. 1. Пішэце разборчыва. 2. Адрас патрэбна пісаць дакладна, а іменна: паказвайце паштовае аддзяленьне, акругу, раён, сельсавет, вёску ці горад, вуліцу і № дому, прозьвішча, імя і па бацьку ці назву ўстановы. 3. Гадавым падпісчыкам залічаецца той, хто зьбярэ 6 гадавых, 12 поўгадавых ці 22 3-месячных падпісчыкаў.

Зборшчыкі, якія ўжо выпісалі для сябе часопіс, пакідаюць сабе 15% ад сабранай падпіскі.

**Падпісная плата**: на год—2 р. 20 к., на 6 мес.—1 р. 10 к., на 3 мес.—60 к., на 1 мес. 20 кап.

Падпіска прымаецца з любога месяцу і ў кожным паштовым аддзяленьні.

Л І Н І Я А Д Р Э З У

## Прывітальная тэлеграма

БЕЛКАЛГАССАЮЗУ.

Урачысты сход камуны „Чырвоны Сьцяг“ разам з акаляючым насельніцтвам у сьвята „Калактывізацыі і ўраджаю“ шле шчырае прывітаньне і запэўняе ў тым, што ўсе дырэктывы партыі і органаў калгаснага будаўніцтва будуць камунай няўхільна выконвацца.

Прэзыдыум сходу.

---

Жлобінскаму раённаму Інспэктарыяту Палітасьветы.

Паведамляючы аб атрыманьні надасланых Вамі 30 здымкаў па калгаснаму будаўніцтву ў раёне, Рэдакцыя часопісу выказвае сваю падзяку.

Здымкі прыдатныя і таму будуць паступова скарыстоўвацца ў часопісу.

Рэдакцыя.

ЦАНА 20 КАП.



# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА

—) НА (—

# „Шляхі каляктывізацыі“

## Часопіс каляктывізацыі, вытворчага С.-Г. каапэраваньня і агранамізацыі насельніцтва.

**Выданьне Наркамзему і Белкалгассаюзу БССР.**

Часопісь „Шляхі Каляктывізацыі“ сваёй ставіць мэтай у папулярнай форме адбіваць шляхі каляктывізацыі сельскай гаспадаркі БССР як праз вышэйшыя формы вытворчага аб'яднаньня—камуны, арцелі, так і простыя—рознага віду таварыствы.

Задачы часопісу „Шляхі Каляктывізацыі“—згуртаваць увагу ўсяго бяднацка-серадняцкага сялянства вёскі на шляху сацыяльна-тэхнічнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы, заснаванай на электрычнай машыне, на трактары і г. д., а працаўнікам калгассыстэмы, зямельным, аграномічным і ўсяму вясковаму актыву дапамагчы выконваць працу ў гэтым напрамку на мясцох.

Значнае месца адводзіцца ў часопісе павышэньню с.-г. ведаў насельніцтва і тэхнічным парадам, абгрунтаваным на навуковых даных і мясцовых досьледах.

Часопіс зьвязан з практычнай працаю каапэрацыйных аб'яднаньняў, з Інстытутам Сялян-Дасьледчыкаў і перадавым актывам вёскі.

У Часопісу прымаюць удзел:

Працаўнікі калгасаў, прафэсары і навуковыя працаўнікі Беларускай С.-Г. Акадэміі і Беларускага Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя У. І. Леніна, спэцыялістыя Наркамзему, Белкалгассаюзу і Белсельсаюзу, актыў калгасаў БССР, настаўнікі, сяляне-дасьледчыкі і інш.

**Падпісная плата на 1930 г.**

| | |
|---|---|
| На год (12 нумароў) | 2 р. 20 к. |
| „ 6 месяцаў | 1 р. 10 к. |
| „ 3 „ | — 60 к. |
| Паасобны нумар | — 20 к. |

Зборшчыкі падпіскі атрымліваюць 15% ад падпісной платы пры завярбаваньні ня менш 6 гадавых ці 12 паўгадавых падпісчыкаў; або за гэты лік сабраных падпісак зборшчыкі могуць атрымліваць часопіс у працягу году.

Падпіска прымаецца на кожнай пошце, кожным лістаносцам, спэцыяльнымі зборшчыкамі і непасрэдна ў Рэдакцыі.

Ёсьць камплекты „Плуга“ за ранейшыя гады. Цана камплекту 1 р. 10 к.

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая 71, НКЗБ.

Друкарня „БДВ“. Заказ № 346. 10.000 экз. Галоўлітбел № 145.